М. В. Жуковіч

# Літаратурнае чытанне

Вучэбны дапаможнік для 3 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай і рускай мовамі навучання

У дзвюх частках

Частка 1

*Дапушчана*
*Міністэрствам адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*



МІНСК
НАЦЫЯНАЛЬНЫ ІНСТЫТУТ АДУКАЦЫІ
2017

УДК 821.161.3.09(075.2=161.3=161.1)
ББК 83.3(4Беи)я71
Ж86

Р э ц э н з е н т ы:

дацэнт кафедры беларускага і рускага мовазнаўства факультэта пачатковай адукацыі ўстановы адукацыі «Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка», кандыдат педагагічных навук *Н. М. Антановіч*;

метадычнае аб’яднанне настаўнікаў пачатковых класаў дзяржаўнай установы адукацыі «Гімназія № 4 г. Мінска» (намеснік дырэктара па вучэбнай рабоце *Л. А. Сафронава*)

Спіс выкарыстаных крыніц прыведзены ў другой частцы вучэбнага дапаможніка.

## Умоўныя абазначэнні:

 — слоўнік;

 — тэкст для маўленчай размінкі;

 — давайце абмяркуем тэму разам;

 — папрацуйце ў пары, у групе;

 — пытанні і заданні да твораў;

 — прыпынак для фантазіі.

---

**ISBN 978-985-559-781-1 (ч. 1)**
**ISBN 978-985-559-780-4**

© Жуковіч М. В., 2017
© Афармленне. НМУ «Нацыянальны інстытут адукацыі», 2017

# ПРЫГОЖАЯ ПТУШКА ПЕР'ЕМ, А ЧАЛАВЕК — ВУЧЭННЕМ




**Мы працягнем знаёміцца** з цікавымі і павучальнымі творамі на школьную тэму, пра імкненне да вучобы і пазнання навакольнага свету. Даведаемся значэнні незразумелых слоў і выразаў.

**Мы будзем вучыцца:**

- даваць характарыстыку дзейным асобам;
- выказваць свае адносіны да прачытанага.

**Мы навучымся:**

- вызначаць у вывучаных вершах і апавяданнях дзейных асоб;
- выразна чытаць па ролях урыўкі твораў;
- складаць вуснае выказванне па серыі малюнкаў і апорных словах.



1. Разгледзьце малюнак (с. 3).
2. Адкажыце на пытанні.

1) Каго вы бачыце на малюнку?

2) Які момант з жыцця вучняў адлюстраваны? Па чым вы здагадаліся?

3) Як выглядаюць твары настаўніцы і вучняў?

4) Пра што, на вашу думку, могуць гутарыць настаўніца і дзеці?

## Дзень добры, школа!

*Ніна Галіноўская*

Восень дзяцей сустракае.
— Дзень добры! — вітае здалёк. —
Гатовы да школы? — пытае.
— Гатовы! Чакаем званок!
І лета падносіць букеты:
— Віншую з заняткамі вас!
Сігналіць на старце ракета —
У вырай збірацца мне час.

— Выдатных адзнак вам, бывайце! —
У небе крычаць жураўлі. —
Зімой нас шукайце на карце,
Вясной — на радзімай зямлі.
— Дзень добры, любімая школа!
Мы дружныя будзем з табой!..
І восень з усмешкай вясёлай
Ідзе ўрачыстай хадой.



1. З кім размаўлялі вучні па дарозе ў школу?
2. Як аднесліся да школьнікаў восень, лета і жураўлі? Дакажыце сваю думку радкамі з твора.
3. Растлумачце сэнс слоў жураўлёў:

   «Зімой нас шукайце на карце,
   вясной — на радзімай зямлі».

4. Чым змест гэтага верша падобны на казку?
5. З якім настроем ідуць вучні ў школу? Адказ падмацуйце адпаведнымі радкамі.



**Размяркуйце ролі і выразна прачытайце твор па ролях.**

## ПРЫКАЗКІ

- Кнігі чытаеш — свет адкрываеш.
- Хто без навукі, той як бязрукі.
- Навука не мучыць, а жыць вучыць.
- Дзе няма ведаў, там не будзе смеласці.
- У каго веды — у таго і сіла.



Прачытайце і адгадайце загадку.
У час чытання правільна вымаўляйце гукі [дз’], [р], [ц’].



Ніколі не ся**дзіць**.
Не можа сам ха**дзіць**,
але па полі хо**дзіць**,
калі т**р**ы ма́льцы во**дзяць**.

*Васіль Жуковіч.*



***Руда́*** — прыродная сыравіна, якая змяшчае ў сабе метал.
***Сука́ць*** (ніткі) — звіваць, скручваць некалькі нітак у адну.
***Сяга́ць*** *(разм.)* — рухацца.

## Новы сшытак

*Лідзія Арабей*

Косцік вельмі любіў пачынаць новы сшытак. І першыя старонкі пісаў заўсёды вельмі акуратна, старанна. Літары выходзілі роўныя і прыгожыя.

Але чым далей пісалася ў сшытку, тым бруднейшыя выходзілі старонкі, крывейшыя літары. А як пераvaĺьвала за палавіну, тут ужо невядома што рабілася. Літары пачыналі нібыта скакаць — то вылазіць зверху за лінейку, то сягаць пад яе, рабіліся нібы гарбатыя.

Косціку і самому брыдка было глядзець на сапсаваны сшытак, і ён, не дапісаўшы яго да канца, кідаў і браў новы. Але з новым сшыткам выходзіла тое самае: зноў мазаніна, крывыя літары. І зноў прыходзілася браць новы.

Аднойчы тата спыніўся каля стала, за якім рабіў урокі Косцік. Узяў у рукі адкінуты сшытак.

— Бачу, сынок, не цэніш ты людской работы, — сказаў ён.

— Якая работа! — запярэчыў сын. — Колькі там той сшытак каштуе!

— Колькі каштуе, — паківаў з дакорам галавою тата. — А ці ведаеш ты, колькі трэба працы, каб такі сшытак зрабіць?!

— Падумаеш, — сказаў Косцік. — Некалькі лістоў сашчапіць!..



— А як тыя лісткі робяцца, ты ведаеш?

— З паперы.

— Так, з паперы, а папера з чаго?

Косцік маўчаў.

— Папера з дрэва робіцца, — пачаў тлумачыць тата. — Значыць, каб сшытак зрабіць, трэба дрэва спілаваць... А каб дрэва спілаваць, бензапіла патрэбна... А пілу з металу робяць... А каб метал атрымаць, трэба спачатку руду знайсці... Потым вывезці яе з шахтаў на машынах, на цягніках... А машыны ды цягнікі таксама зрабіць трэба. Так што на твой сшытак сотні людзей працуюць, а можа, і тысячы. Геолагі руду шукаюць, сталявары метал выплаўляюць, рабочыя машыны робяць, машыністы ды шаферы водзяць цягнікі, самазвалы. А для той пілы, для самазвала яшчэ і бензін патрэбен, значыць, і нафту трэба з зямлі здабыць...

Косцік слухаў тату і дзівіўся. Ён ніколі не думаў, што звычайны сшытак робіць так шмат людзей.

— А тое дрэва? — гаварыў тата. — Яно расло, можа, сто гадоў, а яго спілаваць трэба, завезці на фабрыку, каб паперу на твой сшытак зрабіць. У клетачку ці ў лінейку. А ты дапішаш сшытак да палавіны і выкідаеш... І новы пачынаеш...

«Цікава, — думаў Косцік. — Калі на звычайны сшытак працуе тысяча чалавек, то як жа на ўсё астатняе?» І ён спытаў:

— А штаны мае таксама многа людзей рабіла?

— Таксама, сынок, — адказаў тата. — Спачатку трэба было лён пасеяць ды даглядаць яго, каб вырас. Потым на станках ніткі сукаць, фарбаваць іх. З тых нітак тканіну ткаць, потым на машынах з тканіны штаны шыць. А станкі ды машыны зноў жа з металу робяць, а метал — з руды... Усюды праца чалавечая, каб не яна, нічога не меў бы ты, а жыў, як першабытны чалавек, у пячоры.

Косцік агле́дзеў свой стол. На ім ляжалі кніжкі, сшыткі, каляровыя алоўкі, ручка, лінейка. Ён узяў у рукі лінейку. І раптам уявіў, колькі людзей рабіла гэтую няхітрую прыладу. Асцярожна паклаў лінейку на стол, падсунуў да сябе недапісаны сшытак. І даў цвёрдае слова — пакуль гэтага не дапіша, новага не пачне.



1. Што вы даведаліся пра Косціка?
2. Чаму тата вырашыў расказаць сыну пра затрачаную на выраб аднаго сшытка працу?
3. Які ўрок бацька даў сыну?
4. Ці ўдалося тату пераканаць Косціка? Адказ падмацуйце адпаведнымі радкамі з твора.



Размяркуйце ролі і выразна прачытайце апавяданне па ролях.



Прачытайце верш. Выразна вымаўляйце гукі [ў], [дз’], [ч], [ц’] і падоўжаныя зычныя.

### ВЕРАСЕНЬ

Мне Верасень рукý падаў:
— Ты ў школу свой партфель сабраў?
— Сабраў партфель і сам сабраўся,
І з вольным летам развітаўся.
— Куды ж **ця**пер твой **дзе**нь імчы**цц**а?
— Ву**чыцц**а, Верасень, ву**чыцц**а.

*Сяргей Панізнік.*



(Ад пачуццяў) ***збыткy*** — *тут:* у значэнні многа, «от переизбытка».
***Прóста жах*** — страшна, жахліва.
***Дадóлу*** — уніз, да зямлі.

## Калі ранец лёгкі і калі цяжкі?

Школьны ранец
Можа быць
І ця́жкі, і лёгкі.
А чаму і як, сябры, —
Запытайце ў Лёўкі.

Ён са школы ўчора бег
Праз усю дарогу —
Толькі ранца

На сабе
Не адчуў ні троху.

Хоць было
Ў ранцы тым
Кніг бітком набіта,
А здаваўся ён пустым,
Без вагі́ нібыта.

Ветру хуткага хутчэй
Лёўка ўбег у хату
І адразу ад дзвярэй
Гучна крыкнуў тату:



— Паглядзі,
Што я прынёс:
«Дзесяць» у кожным сшытку!..
І глядзеў угору нос —
Ад пачуццяў збытку.

А сягоння —
Проста жах:
Лёўка наш са школы
Крочыў ледзьве не ў слязах —
Гэткі невясёлы.

Ранец новенькі такім
Непрыгожым здаўся,
А цяжэрны —
Хоць ты кінь! —
Лёўка аж згінаўся.

І глядзеў не ўгору нос,
А ў зямлю,
Дадолу...

Што ж такое Лёўка нёс?
Што валок дадому?
*Паводле Ніла Гілевіча.*



1. Хто з'яўляецца героем у вершы? Што вы даведаліся пра яго?
2. Ад чаго залежала вага ранца хлопчыка? А яго настрой?
3. Як супакоілі б вы Лёўку пры сустрэчы?
4. Што трэба рабіць, каб ранец быў заўсёды лёгкім?
5. А што вы скажаце пра свае ранцы (рукзакі)? Ці цяжкія яны ў вас?



***Надвячо́ркам*** — пара́ перад самым вечарам.
***Зно́ўку*** — яшчэ раз.
***Ша́стаць*** — утвараць лёгкі шум.

## Ці так чытала?

*Мар'ян Дукса*

Так чытала, так гартала,
аж пакуль не цёмна стала.
І ў суботу, і ў нядзелю
я на літары глядзела.

З кніжкай ела,
з кніжкай спала,
з кніжкай па двары гуляла,
з ёй у сад хадзіла я,
з ёй была ля ручая,
з ёй сядзела рана-рана
ля блакітнага экрана.

Нават кнігі не закрыла,
як з сяброўкай гаварыла.
Надвячоркам звонка-звонка
зноўку шастала старонкай.
Так вучыла, так гартала —
толькі тройку атрымала!
Можа, я не так чытала?..





1. Што вы адкажаце дзяўчынцы на яе пытанне?
2. Якія словы падказваюць нам, што дзяўчынка актыўная? Знайдзіце і прачытайце іх.
3. Якіх якасцей характару не хапае гераіні *(стараннасці, уважлівасці, працавітасці, гасціннасці, дабрыні, настойлівасці)*?
4. З якім настроем трэба чытаць верш *(вясёлым, сумным, незадаволеным)*? Чаму?



Што аб’ядноўвае творы «Калі ранец лёгкі і калі цяжкі?» Ніла Гілевіча і «Ці так чытала?» Мар’яна Дуксы?
Параўнайце герояў гэтых вершаў. Чым яны адрозніваюцца?



Прачытайце ўрывак з верша Міколы Чарняўскага. Правільна вымаўляйце гукі [ў], [дз’], [ц’].

Звіні**ць** званок, рассыпа**ў** смех на**ў**кола —
Ён сумава**ў** без нас у вольны час.
**Дз**ень добры, верасень!
**Дз**ень добры, школа!
**Дз**ень добры, наш утульны, светлы клас.



***Сваво́ліць*** — весяліцца, забаўляцца, дурэць; рабіць так, як захочацца.

## Крыўда

Вярнуўся Косцік са школы злосным.
— Ты чаму такі? — спытала маці.
— Мне двойку паставілі. За ката.
— За якога ката?



— Вось, — раскрыў Косцік сшытак. — Хіба я дрэнна яго намаляваў?

Кот быў прыгожы. Хвост — трубой, ву́сы белыя, шэрсць, як у тыгра, паласатая.

— Добры кот, — сказала маці.

— А настаўніцы не спадабаўся. Двойку паставіла.

— Ты, магчыма, сваволіў на ўроку выяўленчага мастацтва?

— Не, — адказаў Косцік. — У нас сёння не было малявання. Я намаляваў яго на ўроку матэматыкі.

*Паводле Васіля Хомчанкі.*



Працягніце размову маці з сынам. Трэба яму патлумачыць, што на ўроку нельга займацца пабочнымі справамі.



1. З якім настроем Косцік вярнуўся са школы?
2. Як маці аднеслася да няўдачы сына?
3. Паразважайце, за што настаўніца паставіла двойку Косціку.
4. Хто, на вашу думку, быў вінаваты ў няўдачы хлопчыка?
5. Як вы разумееце сэнс назвы апавядання? Растлумачце.



Размяркуйце ролі і выразна прачытайце твор па ролях.



## 1. Разгледзьце малюнкі.













## 2. Адкажыце на пытанні.

1) Чым займаліся на палянцы жывёлы?

2) Каго Зайчык убачыў на дарозе? Куды ішлі звяры?

3) Чаму Зайчык заплакаў? Хто яго супакоіў?

4) Куды прыйшоў Зайчык? З якой мэтай?

5) Як яго сустрэлі Бусел-настаўнік і вучні?

3. Складзіце невялікую казку па малюнках. Выкарыстайце апорныя спалучэнні слоў і сказы.

*Апорныя спалучэнні слоў і сказы:* на палянцы, гулялі ў футбол, на варотах, маленькі Зайчык, па дарозе, з ранцамі, Зайчык заплакаў, хоча таксама вучыцца, прыляцела Сарока, пачала супакойваць, папрасіць у бацькоў, новенькі ранец, адправіўся ў лясную школу, прывітаўся, Бусел-настаўнік запрасіў сесці, Зайчык узрадаваўся, стаў вучнем.

## Праверце свае веды і ўменні

***Ведаю...***

1. Хто з герояў твораў сказа́ў гэтыя словы?
   а) «Зімой нас шукайце на карце,
   Вясной — на радзімай зямлі»;
   б) «— Паглядзі,
   Што я прынёс:
   “Дзесяць” у кожным сшытку!..»;
   в) «Так вучыла, так гартала —
   толькі тройку атрымала!
   Можа, я не так чытала?..».
2. Адкажыце на пытанні.
   а) Чаму Лёўку з верша Ніла Гілевіча «Калі ранец лёгкі і калі цяжкі?» ранец здаваўся то лёгкім, то цяжкім?

б) Чаго не хапала ў характары гераіні з верша «Ці так чытала?» Мар'яна Дуксы?
в) Якое цвёрдае слова даў сам сабе Косцік з апавядання «Новы сшытак» Лідзіі Арабей? Чаму?

***Разумею, магу растлумачыць...***

1. Які твор з гэтага раздзела асабліва спадабаўся? Чаму?
2. Якія ўменні і якасці, на вашу думку, трэба развіваць у сабе, каб пазнаваць невядомае?

***Умею...***

1. Выразна чытаць па ролях верш «Дзень добры, школа!» Ніны Галіноўскай, апавяданні «Крыўда» Васіля Хомчанкі і «Новы сшытак» Лідзіі Арабей.
2. Скласці прыказкі і растлумачыць іх сэнс.

а) свет Кнігі чытаеш — адкрываеш.
б) без навукі, той Хто як бязрукі.
в) а жыць не мучыць, Навука вучыць.

# УВОСЕНЬ І ВЕРАБЕЙ БАГАТЫ



**Мы працягнем знаёмства** з творамі пра прыгажосць восеньскай прыроды; пра змены і з’явы, якія адбываюцца ў гэтую пару года.

**Мы будзем вучыцца:**

◈ вызначаць і перадаваць настрой вершаў;
◈ знаходзіць у творы прыгожыя малюнкі, слоўна маляваць карціны восеньскай прыроды;
◈ вылучаць у вершах вобразныя словы.

**Мы навучымся:**

◈ знаходзіць у творах апісанне восеньскага пейзажу;
◈ вылучаць сэнсавыя часткі апавядання, вызначаць галоўнае ў кожнай частцы;
◈ падрабязна пераказваць змест апавядальнага тэксту па плане.



# ВОСЕНЬСКІЯ ПЕСНІ

## Восень мая, восень...

— Ой, восень мая, восень,
Восень сцюдзёная,
Чаго ты рана захаладала?
— Я й не раненька,
Я й не позненька —
Калі мая пара́ прыйшла.
Лісточак апаў, зямельку ўслаў —
Вось мая і пара́ прыйшла.
Рэчкі сталі, пазамярзалі —
Вось мая й другая пара́.



1. З якім пытаннем звяртаюцца да восені? Прачытайце.
2. Які адказ дала восень? Знайдзіце яго ў тэксце і прачытайце.
3. Назавіце прыкметы восені, узгаданыя ў песні.



***Тано́к*** — танец, харавод.

## Ой, у полі лянок брала



Ой, у полі лянок брала,
Сама́ сябе забаўляла.

Вечарочак прастаяла,
Снапы лёну расстаўляла.

Шкада, што ночанька прыйшла,
А можа б, я ў танок пайшла.



1. Калі выконвалася гэта песня? Патлумачце. Чым адрозніваецца яна ад папярэдняй?
2. Ці лёгка было спявачкам браць лён? Чаму яны не стаміліся?
3. Якія віды працы выконвалі жанчыны ў час уборкі лёну?



***Каму́ра*** — невялікае памяшканне пры хаце для захоўвання ежы, розных хатніх рэчаў.

## Салавейка, пташачка мале́нька



Салавейка, пташачка маленька,
Дзе ж ты будзеш зімку зімаваці?

Дзе ж ты будзеш зімку зімаваці,
Дзе ж ты будзеш гняздзечка звіва́ці?

Не ляці ты за сіняе мора,
Звей гняздзечка ў маёй каморы.

Ты нас будзеш песняй весяліці,
А мы будзем хлебушкам карміці.

Ты нам будзеш песенькі спяваці,
Стане ўзімку лецейка ў хаце.



1. Што значыць «Стане ўзімку лецейка ў хаце»? Патлумачце.
2. Назавіце ў песні ласкавыя словы. Аб чым яны сведчаць?



Па прапанаваных пытаннях раскажыце пра восеньскія песні.

1) Калі спяваюць восеньскія песні?
2) Хто з’яўляецца іх героямі?
3) Пра што ў восеньскіх песнях расказваецца?
4) Што ўслаўляецца ў іх?

## НАРОДНЫЯ ЗАГАДКІ
## ПРА ВОСЕНЬСКІЯ З’ЯВЫ ПРЫРОДЫ













- Распластала птушка крылы, ажно сонца засланіла.
- Ішоў даўгавяз, у сырую зямлю ўвяз.
- Мяне ўсе просяць, мяне ўсе чакаюць, як толькі з’яўлюся — хавацца пачынаюць.
- Вісіць — зялёны, ляціць — жоўты, ляжыць — чорны.
- Нітак многа, а ў клубок не зматаеш.
- Ніколі шапкі не здымае, бо ні адной рукі не мае.
- Ляцелі шэрыя гусі, накідалі белага пуху.



Чаму карысна ведаць многа загадак і ўмець іх разгадваць?



1. Уважліва разгледзьце карціну мастака Ілы Астравухава «Залатая восень».



2. Адкажыце на пытанні.

1) Які настрой узнік у вас пасля прагляду карціны?

2) Чаму восень называецца залатой?

3) Якія дрэвы адлюстраваны на пярэднім плане карціны?

4) Як выглядае трава?

5) Хто паказаны на сцежцы?

6) Якіх фарбаў на карціне мастак выкарыстаў больш? Чаму?



Прачытайце лічылку, правільна вымаўляючы гукі [дз’], [ч], [р], [ц’].

Каля зялёнае яліны
**Ч**ырвоныя стая**ць** каліны —
Адна, **дз**ве, т**р**ы…
Падобныя, як т**р**ы сяст**р**ы.
*Васіль Жуковіч.*

## Надыход восені

*Пятрусь Броўка*



Вось і лета сышло,
Адспявалі калоссі,
Цяжка нам заўважаць,
Як з’яўляецца восень.

Непрыкметна зусім —
Прыплыве павуцінкай,
Гляне жоўтым лістком
З-пад зялёнай хусцінкі.

Усплыве туманом
Над рачулкаю соннай,
Устрывожыць дымком
З пахам бульбы пячонай.

Зачаруе агнём
Маладзенькай рабіны,
На адлёце крылом
Памахае буслінім.

А пасля,
А пасля
Ліст апошні сарвецца...
Ды не знаю, чаму
Ты мне, восень, па сэрцу!





1. Якія пачуцці выклікаў у вас верш Петруся Броўкі? Які настрой аўтара перададзены ў ім?
2. Што вы ўяўлялі ў час чытання твора? Раскажыце.
3. Як вы разумееце выразы: «лета сышло», «адспявалі калоссі», восень «прыплыве павуцінкай», «гляне жоўтым лістком»?
4. Якія яшчэ словы «ажыўляюць» восень, робяць яе падобнай да жывой істоты? Знайдзіце і зачытайце гэтыя словы.
5. Ці падабаецца паэту восень? Пацвердзіце радкамі з верша.

# Восень

*Сяргей Грахоўскі*



Адшумела лета  
Роснымі лугамі,  
Апусцела поле,  
Нівы адцвілі.

Праплываюць хмары  
Нізка над стагамі,  
І ляцяць у вырай  
З крыкам жураўлі.

На рабіне скачуць  
Шустрыя сініцы,  
Пад дажджом намоклі  
Клёны і дубы.

Наліліся сокам  
Спелыя брусніцы,  
І каля дарогі  
Выраслі грыбы.



1. На якую тэму напісаны гэты верш? Вызначце яго настрой.
2. Якія малюнкі прыроды вы ўяўлялі ў час чытання твора? Раскажыце.
3. Што сведчыць пра надыход восені? Прачытайце адпаведныя радкі.

**4.** Якія з пералічаных прыкмет восені можна назваць сумнымі? А якія выклікаюць радасць? Знайдзіце і зачытайце іх.



**1. Уважліва разгледзьце рэпрадукцыю карціны мастака Сяргея Кавальчука «Хутка восень».**



**2. Адкажыце на пытанні.**

1) Ці спадабалася вам карціна? Чым?

2) Як выглядае рэчка? Неба? Трава? Дрэвы?

3) Па чым можна меркаваць, што гэта пачатак восені?

4) Ці сугучныя верш Сяргея Грахоўскага «Восень» і карціна Сяргея Кавальчука? Што іх адрознівае?



Прачытайце лічылку, правільна вымаўляючы гукі [дз’], [ч], [ш], [р], [ц’].

У лесе, **дзе** дубкі,
Вы**р**аслі ба**р**авікі —
А**дзі**н, два, **тр**ы, **ч**аты**р**ы, пя**ць**...
**Тр**эба ў ко**ш**ык іх узя**ць**.

*Васіль Жуковіч.*



***Наха́бнік*** — бессаромны і дзёрзкі чалавек.
***Бурало́міна*** — зваленае бурай дрэва.
***Ква́піцца*** — мець жаданне, імкнуцца завалодаць чым-небудзь.

## Лістападнік

*Рыгор Ігнаценка*

Неяк асеннім днём блука́ў я са стрэльбай па лесе.

У адным месцы пачуў нейкі нязвыклы енк. Здавалася, быццам нехта злёгку на лялька націскаў і тая падава́ла свой голас.

Я асцярожна падышоў да залацістага арэшніку і выглянуў з-за куста.

На невялічкай прагалінцы ляжала струхлелая асіна. А на ёй сойка — прыгожая страка́тая

птушка. Скача яна ўзбуджана па ствале туды-сюды ды ўвесь час уніз нешта пазірае.

Вось яна, бачу, скокнула на грыб губу́, што казырком рос на асіне, пры самай зямлі, ухапілася дзюбкай за нешта шэранькае і пацягнула на сябе. Гэта, шэранькае, жаласліва і заенчыла!



Паразважайце, што далей адбудзецца ў творы.

Я прыгледзеўся — зайчык! Сойка цягнула яго за вуха. Звярок не адбіваўся ад птушкі, не спрабаваў уцячы, а толькі ўсё енчыў, нібыта прасіўся, каб яго адпусцілі.

— Ах ты, нахабніца! — абурыўся я і замахнуўся на птушку рукою. — Прэч адсюль!

Сойка стракатай хусцінкай спалохана мільганула над прагалінкай і з крыкам знікла ў хвойніку.

Я падышоў да бураломіны. Зайчык быў зусім яшчэ маленькі і нікуды ад мяне не ўцякаў. Такіх позніх зайчанят паляўнічыя лістападнікамі называюць. Я ўзяў яго ў рукі. Пушысценькі клубочак зусім не баяўся мяне. Я асцярожна паху́каў на яго. Зайчаня прыціснулася да далоні і сцішылася. Толькі зрэдку вялікімі карымі вочкамі блі́скала. Але таксама не баязліва, даверліва.

Вельмі мне хацелася гэтага зайчыка дамоў узяць. Вось бы абрадаваліся дзеці такому лясному падарунку. І ўсё ж я ўстрымаўся. Пабаяўся, што кот Барсік, які жыве ў нас, пакрыўдзіць пушысціка.

А каб сойка болей не ква́пілася на зайчаня, я аднёс яго глыбей у лес і пасадзіў пад густую елачку. Зайчыха-маці знойдзе яго там. Няхай жыве малое, няхай патопча зімою мяккі сняжок!



1. Які выпадак давялося назіраць паляўнічаму ў лесе? Прачытайце.
2. Як уратавалі зайчаня? Перакажыце гэты эпізод.
3. Чаму паляўнічы не ўзяў зайчыка дамоў? Як гэта характарызуе яго?
4. Хто з'яўляецца героем апавядання: пісьменнік ці паляўнічы? Чаму вы так думаеце?



Падрабязна перакажыце змест апавядання па плане.

П л а н

1. У лесе пачуўся нязвыклы енк.
2. Сойка цягне за вуха шэранькае зайчаня.
3. Нахабніца знікла.
4. Паляўнічы трымае зайчыка ў руках.
5. Дужа хацелася ўзяць яго дамоў.
6. Няхай жыве малое.

## ЯНКА КУПАЛА



Сапраўднае імя і прозвішча пісьменніка — Іван Луцэвіч.

Пісьменнік нарадзіўся якраз на Купалле. Таму і псеўданім (выдуманае прозвішча) выбраў сабе такі — Купала. Ясь, так у маленстве звалі яго бацькі, рос задуменным, дапытлівым і ўражлівым хлопчыкам. Ён вельмі любіў лес, куды часта хадзіў з брацікамі і сястрычкамі ў грыбы, ягады, арэхі. Яся прываблівала і захапляла прыгажосць роднай зямлі.

Для дзяцей Янка Купала напісаў такія вядомыя вершы, як «Хлопчык і лётчык», «Сыны», «Сын і маці», «Алеся» і інш.



***Павáл*** — паваленыя лес, буралом.

## Лістапад

*Янка Купала*

З буйны́х ліп і бяроз
Лісты валяцца.
Між павалаў і лоз
Рассыпаюцца.



Шапацяць, шалясцяць
Залацістыя,
Увысь галінкі глядзяць
Пусталістыя.

А як прыйдзе вясна —
Усё адменіцца,
І галінкі ізноў
Зазяле́няцца.



1. Які настрой верша: вясёлы ці сумны? Паразважайце.
2. Як мяняецца настрой на працягу твора?
3. З дапамогай якіх слоў Янка Купала малюе восеньскія лісты і галінкі? Прачытайце.
4. Ці падабаецца паэту лістапад? Дакажыце.
5. Якія малюнкі можна намаляваць да твора? Вусна апішыце іх.
6. Чым падобныя вершы «Восень» Сяргея Грахоўскага і «Лістапад» Янкі Купалы? Якая восень апісваецца ў кожным з іх?
7. Вывучыце верш на памяць.

## Ясныя дні восені

*Якуб Колас*

Сярод гнілой восені выдаюцца часам ясныя, светлыя дні. Ціха ўсюды. Вецер не скалыхне ні адзін лісцік, ні адну травінку. Ласкавае неба пазірае на зямлю; нідзе ні хмурынкі. Ясна і хораша, усё роўна як вярнулася лета. Падарыла

восень людзям яшчэ некалькі ясных, светлых і цёплых дзён.

Хоць усюды і ціха, цёпла і ясна, але ўжо не вее тым жыццём, якое відаць вясною. Куды ні кінь вокам, на ўсім бачыш след восені. Хмурны хваёвы лес чуць заслаўся сінім дымком туману... А бярозы, асіны і дубы чырванеюць здалёк сваім лісцем і напамінаюць сабою аб восені. На ўсім ляжыць сінявата слой не то дыму, не то туману.

А прыслухаешся — такая цішыня навокал!.. Толькі часам закрычаць у небе дзікія гусі, імкліва пранясуцца жураўлі і схаваюцца ў сініх хвалях далёкага яснага неба. Крык іх заціхае памалу і замрэ, расплывецца ў цішыні асенняга дня.

Плаўна носіцца ў паветры белая павуціна, сцелецца па зямлі, чапляецца за кусты і сухую траву. Прайшло цёплае лета. Апошнія вы, ясныя дзянькі восені!..



1. Якімі днямі восені захапляецца Якуб Колас? Падмацуйце адказ радкамі з твора.
2. Як вы разумееце сэнс выразу «гнілая восень»? Растлумачце.
3. Дзе ў творы аўтар адзначыў сляды восені?
4. Якія словы і выразы ажыўляюць восеньскія прыкметы? Знайдзіце і прачытайце іх.
5. Якая асноўная думка закладзена пісьменнікам у гэтай пейзажнай замалёўцы?



***Імша́рышчы*** — лясістыя балоты, пакрытыя мохам.
***Зво́ддалі*** — здалёк.

## Гусанькі

*Станіслаў Шушкевіч*

Паляцелі гусанькі па цяпло,
Туды, куды ле́цейка ўцякло.
Як ляцелі нізенька над зямлёй,
Жа́ласліва крыкнулі ўсёй сям'ёй.

Рэкі і імшарышчы, сенажаць
Шкода шэрым гусанькам пакідаць.
Ды нядоўга ўда́лечы ім бываць,
Ды нядоўга гусанькам гараваць.

Зноў пачуем зводдалі шумны крык,
Калі прыйдзе радасны красавік.
Прынясуць нам з выраю зноў цяпло,
Што ў пару́ асеннюю ўцякло.



1. Якая з'ява апісана ў вершы?
2. З якім настроем гусі пакідаюць родны край? Чаму? Знайдзіце і прачытайце адпаведныя радкі. Перадайце гэты настрой пры чытанні.
3. Прачытайце радкі верша, у якіх расказваецца пра вяртанне птушак дамоў. З якім настроем трэба чытаць гэтыя словы?

4. Якія ласкавыя словы сустракаюцца ў творы? Знайдзіце і прачытайце іх.
5. Прачытайце прыказкі. Растлумачце іх сэнс. Якія з прыказак можна аднесці да прыкмет? Чаму?

### ПРЫКАЗКІ

- Гусі ляцяць высока — зіма яшчэ далёка.
- Гусі ляцяць нізка — зіма блізка.
- У чужой старонцы не так свеціць сонца.

## Праверце свае веды і ўменні

*Ведаю...*

1. Якія асеннія з'явы адлюстраваны ў вершах і апавяданнях гэтага раздзела? Пацвердзіце свой адказ адпаведнымі ўрыўкамі з твораў.

2. З якіх твораў узяты наступныя радкі?

а) «З буйных ліп і бяроз
Лісты валяцца.
Між павалаў і лоз
Рассыпаюцца»;

б) «Вось і лета сышло,
Адспявалі калоссі,
Цяжка нам заўважаць,
Як з'яўляецца восень»;

в) «Хмурны хваёвы лес чуць заслаўся сінім дымком туману... А бярозы, асіны і дубы чырванеюць здалёк сваім лісцем і напамінаюць сабою аб восені».

3. Пра каго ідзе гаворка ў наступных радках твораў:

а) «Як ляцелі нізенька над зямлёй,
Жаласліва крыкнулі ўсёй сям'ёй»;

б) «Сойка цягнула яго за вуха. Звярок не адбіваўся ад птушкі, не спрабаваў уцячы, а толькі ўсё енчыў, нібыта прасіўся, каб яго адпусцілі»?

4. Назавіце апавяданні, з якімі вы пазнаёміліся ў раздзеле «Увосень і верабей багаты».

### *Разумею, магу растлумачыць...*

1. Які з твораў гэтага раздзела вам асабліва спадабаўся? Чаму?

2. Калі і дзе вы назіралі за асенняй прыродай? Што ўразіла вас?

### *Умею...*

1. Чытаць на памяць верш Янкі Купалы «Лістапад».

2. Перадаць адпаведны настрой пры чытанні верша «Восень» Сяргея Грахоўскага і апавядання «Ясныя дні восені» Якуба Коласа.

# ЧАЛАВЕК БЕЗ РАДЗІМЫ, ШТО САЛАВЕЙ БЕЗ ПЕСНІ



**Мы працягнем знаёмства** з творамі пра адносіны да роднай зямлі, Радзімы і хлеба; пра прыродныя сімвалы Беларусі і нацыянальную культуру нашага народа.

**Мы будзем вучыцца:**

- ◈ вызначаць тэму і фармуляваць галоўную думку твораў;
- ◈ дзяліць апавяданні на сэнсавыя часткі і даваць ім загалоўкі;
- ◈ выказваць свае адносіны да персанажаў, іх учынкаў і зместу твора.

**Мы навучымся:**

- ◈ вызначаць настрой вершаў;
- ◈ выразна і правільна чытаць тэкст уголас.

## Мой край

*Адам Русак*

Куды ні глянь — лясы шумяць,
цвіце за полем гай,
а поле — вокам не абняць.
І гэта ўсё — мой край.

Пшаніца, жыта на палях,
усюды ўраджай,
стагі, як горы, на лугах.
І гэта ўсё — мой край.

Жыве, працуе мой народ
ці ў снежань, ці ў май,
і харашэе з году ў год
мой родны вольны край.

Куды ні глянь — лясы шумяць,
за полем — рэчка, гай.
І ў сэрцы песні не стрымаць
пра мой любімы край.



1. Што падказвае чытачу, што ў вершы апісваецца беларускі край? Пацвердзіце адпаведнымі радкамі.
2. Якія малюнкі вы ўяўляеце ў час чытання твора? Вусна апішыце іх.
3. На якую тэму напісаны верш «Мой край»?
4. Што хацеў сказаць чытачам сваім творам Адам Русак?

5. Падумайце, якія пачуцці трэба перадаць пры чытанні гэтага твора.
6. Вывучыце верш на памяць.



Разгледзьце рэпрадукцыю карціны мастака Сяргея Кавальчука «Далячыні». Якія радкі з верша Адама Русака «Мой край» найбольш падыходзяць да твора жывапісу?





Пазнаёмцеся з прыказкамі пра адносіны да Радзімы. Растлумачце іх сэнс.

### ПРЫКАЗКІ

- У сваім краі, як у раі.
- Кожная птушка сваё гняздо ведае.
- Родная зямелька — як зморанаму пасцелька.
- Радзіма — матка, чужына — мачыха.



Прачытайце верш Раісы Раманчук. Правільна вымаўляйце гукі [ў], [дз’], [г], [ч], [ц’], спалучэнне гукаў [шч].

* * *

Крынічкаю лагоднай
Няхай **цячэ г**амонка,
Няхай **шч**ыруе мова
Над любаю старонкай!
Няхай на роднай мове
**Ў**се люд**зі** разма**ў**ляю**ць**,
Рад**зі**му, Мову, Ма**ці**
Ніяк не раз**дзя**ляю**ць**!



***Пяшчо́та*** — пачуццё ласкі, мяккасці ў адносінах да каго-небудзь.
***Вячо́ркі*** — зборы вясковай моладзі зімовымі або асеннімі вечарамі для сумеснай работы, забавы.

## На мове роднай

*Мікола Мятліцкі*

Не проста ў словы я гуляю —
На мове роднай размаўляю.
У час світальны, вечаровы
Кажу пяшчоты цёплай словы:




— Дзень добры, сонейка над гаем!
Свяці ярчэй над родным краем,
Гукай вясну з зямной далечы...
Вітанне шлю, марозны вечар!

Ты запалі ў нябёсах зоркі,
Няхай збяруцца на вячоркі,
Чаруюць нас красой нязводнай...
Я гавару на мове роднай.



1. Пра якую родную мову ідзе гаворка ў вершы?
2. З якімі незвычайнымі асобамі аўтар размаўляе па-беларуску? Зрабіце слоўныя малюнкі яго размовы з сонейкам і вечарам.
3. Аб чым просіць аўтар сонейка, марозны вечар?
4. Чаму радуецца і чым ганарыцца беларускі паэт Мікола Мятліцкі? Прачытайце адпаведныя радкі.



У час чытання верша правільна вымаўляйце гукі [ў], [дз’], [г], [ч], [ц’], [р].

## Далей ад бяды

*Ніна Мацяш*

— Буслік, Буслік, ты куды?
— У**ця**каю ад бяды.
Жабіна малота
**Гоніць прэч** з балота:

Жабак, можа, з **дзвесце** —
Хо**чуць** мяне з’ес**ці**!
Я **ў**жо сам не **р**ады,
Што стаптаў ім **гр**ады...



***Пра́шчур*** — далёкі продак, заснавальнік роду.
***Ба́гна (дрыгва́)*** — нізкае топкае месца, грузкае балота.
***Закарцéла*** — моцна захацелася.
***Злі́тасціві́йся*** — праявіў літасць у адносінах да каго-небудзь; змілаваўся.

## Бусел

*Уладзімір Ягоўдзік*

Напэўна, вясёлы жартаўнік прыдумаў гэты жарт. Ён кароценькі. Ты яго, дружа, адразу запомніш.

Ходзіць бусел па балоце,
Работы не мае.
Траву смыча,
Дзюбай тыча
Ды ўсё пазяхае.

Між тым ад буславага пазяхання не надта весела жывецца жабам, вадзяным жукам ды ўсялякім казю́ркам, мышам-палёўкам. І не толькі ім. Часам нават гадзюкі і вужы трапляюць на спажыву цыбатаму паляўнічаму. А палявацъ яму даводзіцца з самага ранку да позняга вечара. Асабліва напачатку чэрвеня, калі ў гняздзе-капелюху з'яўяцца бусляняты — жвавыя пухнацікі. Птушаняты аперваюцца і растуць хутка. Абы хапала корму. Праз два месяцы ў буслянцы становіцца цесна. Чарнадзюбыя маладыя буслы нецярпліва падскокваюць у гняздзе, ускідваюць над сабою крылы — спрабуюць іх сілу.



Неўзабаве прыходзіць празрысты жнівеньскі дзень, калі ўся буслінная сямейка пакідае роднае жытло. У канцы жніўня, перад вандроўкай у далёкую Афрыку, буслы збіраюцца ў вялікія чароды і падоўгу кружацца ў небе. Высока-высока, пад самымі воблакамі. Проста над буслянкамі і хатамі. Так яны развітваюцца з радзімаю да наступнай вясны.

А ці ведаеш ты, мой дружа, адкуль з'явіліся на нашай зямлі буслы і чаму яны любяць жыць па вёсках, сярод людзей? Не чуў? Тады слухай.

Калісьці вандраваў па белым свеце добры чараўнік. І заблукаў ён на Беларусь. Бачыць — прыгожая тут зямля. Векавыя пушчы, ураджайныя палеткі, не злічыць рэчак і азёраў... Адно кепска: развялося шмат розных паўзучых гадаў.



Жыцця ад іх няма ні людзям, ні жывёліне. Паспачуваў дабрадзей нашым прашчурам. Узяў вялізную торбу і сабраў туды match розначе плюга́ўства. Ніводнай жабы ці гадзюкі не пакінуў.

Вядома, стаміўся ад такой нялёгкай работы. Не хапіла сілы самому падняць і занесці тую торбу, каб укінуць у бяздонную багну-дрыгву. Таму і гукну́ў на падмогу хлопца, які сена ка́сіў на лузе. Узваліў яму чараўнік торбу на спі́ну ды загадаў не развязваць па дарозе.



Пафантазіруйце, як далей будуць развівацца падзеі ў творы.

А дзяцюк, як на тое, аказаўся вельмі цікаўны. Закарцела яму зірнуць, што ў торбе вару́шыцца ды сыкае. Схаваўся ён за бухма́ты куст вербалозу і развязаў торбу. Як развязаў — дык самлеў ад страху. Га́ды тым часам вылезлі і зноўку распаўзліся па ўсёй зямлі.

Добры чараўнік не схацеў другі раз з імі пэцкацца. Начапіў ён парожнюю торбу неслухукасцу на плячо — выправіў яго збіраць выпушчанае плюгаўства. Толькі дзяцюк злавіў першую жабу — якператварыўся ў бусла.

З таго часу і дыбае бусел, нібы касец, па лугах-балотах. Босы, з чырвонымі нагамі, у белай кашулі і з чорнаю торбаю за спінай. Потым

чараўнік злітасцівіўся над небаракам, паслаў яму на падмогу жонку-бусліху і дзетак-буслянят. А жыць дазволіў у вёсцы, сярод людзей, каб не забыліся, што вядуць свой пачатак ад чалавечага роду. Людзі таксама помняць пра гэта, таму ніколі не крыўдзяць буслоў, шануюць іх, як родных братоў.



1. Пра якія цікавыя факты з жыцця буслоў вы даведаліся з твора? Раскажыце.
2. Якую гісторыю пра паходжанне буслоў вы прачыталі? Перачытайце яшчэ раз тую частку твора, у якой расказваецца пра паходжанне буслоў. Падзяліце яе на сэнсавыя часткі. Дайце кожнай частцы загаловак. Перакажыце змест па вашым плане.
3. Як людзі адносяцца да буслоў? Чаму?



1. Разгледзьце малюнкі.












**2. Адкажыце на пытанні.**

1) Дзе гуляла дзяўчынка Алеся?

2) Каго яна ўбачыла на лузе? Чым былі заняты Бусел, Васілёк і Лянок?

3) Аб чым яны спрачаліся?

4) Як Алеся памірыла герояў?

**3. Складзіце невялікую казку па малюнках. Выкарыстайце апорныя словазлучэнні і сказы.**

*Апорныя словазлучэнні і сказы:* на квяцістым лузе; убачыла Бусла, Васілька і Лянка; спрачаліся між сабою; пачула сварку; самы лепшы і прыгажэйшы на лузе; выступіў напы́шлівы Васілёк; у спрэчку ўступіў ганарлівы Лянок; усе выслухалі доказы Бусла; Алеся вырашыла прыпыніць спрэчку; усе вы прыгожыя і блізкія нам; усе сваім хараством упрыгожваеце наш луг.

# Песня пра Мінск

*Пімен Панчанка*

У дні бяды і ў ранак Перамогі,
У дні, калі ты харашэў і рос,
Усе твае надзеі і трывогі
Я ў сэрцы нёс.

Я да цябе з усіх дарог вярнуся:
Вярнуся ў партызанскую радню.
Ты мне прабач, калі я зажуруся
Ля Вечнага агню.

Спакойнае дзяцей тваіх дыханне,
Шумі над іх калыскамі ліствой.
Маё ты ранне, і маё каханне,
І вечар сіні мой.



*Плошча Перамогі*



*Нацыянальная бібліятэка*



*Нацыянальны тэатр оперы і балета*

Мой родны Мінск,
Пад небам жураўліным
Жыві, квітней пад зоркай залатой.
Ты для мяне на ўсёй зямлі — адзіны,
Цябе люблю я ўсёй душой.



1. Да каго звяртаецца Пімен Панчанка ў вершы? Чаму?
2. Як вы разумееце сэнс радкоў:

   «Я да цябе з усіх дарог вярнуся:
   Вярнуся ў партызанскую радню.
   Ты мне прабач, калі я зажуруся
   Ля Вечнага агню»?

3. З чым параўноўвае паэт свой любімы горад?
4. Якія пачуцці выказаў аўтар у творы? Адказ падмацуйце адпаведнымі радкамі.
5. Назавіце ў вершы рыфмаваныя радкі (*перамогі — трывогі* і г. д.).
6. Прачытайце верш павольна, захоўвайце паўзы.



Выразна прачытайце скорагаворку з інтанацыяй паведамлення, пытання і радаснага здзіўлення. Вымаўляйце правільна гукі [дз’], [ч], [ц’], [р].

### СКОРАГАВОРКА

**Р**аніцою золкай
**Цецяр**ук з **цяцёр**кай
П**р**ывялі ў **дзіцяч**ы сад
**Ч**аты**р**ох **цецер**анят.
*Міхась Пазнякоў.*



***Пал*** — *агонь.*

## Цяцерка

Мы рабілі ўсё, што маглі, але агонь не сціхаў. Моцны вецер падхопліваў кавалкі сухой драўніны, перакідваў іх у лес. Макаед на сваім вяку гасіў не адзін пажар. Бачыў усякае, але такой вялікай бяды не здаралася.

— Застаецца адно — пусціць сустрэчны пал, — сказаў Макаед. — Толькі так можна спыніць агонь.

Блізка ад мяне працаваў дванаццацігадовы Рыгорка, сын лесніка. Мы з ім рыхтавалі сухое ламачча, каб пусціць сустрэчны агонь.

— Дзядзька! — пачуў я раптам голас Рыгоркі. — Хутчэй сюды!

— А што такое?

— Тут птушка!



Паразважайце, што адбудзецца далей. Як павядуць сябе героі?

Падобная на хатнюю курыцу, шэрая цяцерка заўзята аддзірала кіпцюрамі верхні пласт сухога перагною. Цяцерка ратавала ад агню сваіх дзяцей! Яна паглыбляла равок, каб не пусціць агонь да гнязда.

— Трэба ёй дапамагчы! — сказаў Рыгорка.

— Можа, перанесці гняздо ў бяспечнае месца? — прапанаваў я.



— А ці паляціць за ім цяцерка?

— Разважаць няма калі.

Цяцерка пачала мітусліва кружыць. Яна ледзь не біла нас крыламі, пагрозліва шыпела. Птушаняты пішчалі. Я сам хацеў узяць гняздо, але не змог. Цяцерка зрабіла яго з сухой травы, што расла пад бярозкай, і яно было нібы прышыта да зямлі.

— Рыгорка, хутчэй рыдлёўку!

Мы зрэзалі тонкі пласт зямлі разам з гняздом. Недалёка была паляна, а за ёй — лес, якому пажар не пагражаў. Мы з Рыгоркам кінуліся туды. Я на рыдлёўцы нёс гняздо, а Рыгорка падтрымліваў яго, каб не ссунулася.

— Загінуць птушкі без мамкі, — пашкадаваў Рыгорка, калі мы ўладкавалі іх на новым месцы.

— Пачакай, можа, яшчэ прыляціць.

І сапраўды, праз некалькі хвілін мы ўбачылі нашу цяцерку.

Як мы ўзрадаваліся! А яна падляцела да нас і дзеўбанула Рыгорку ў патыліцу. Але хлопчык не пакрыўдзіўся. Зразумеў, што гэта ад трывогі і страху за дзяцей.

*Паводле Уладзіміра Мяжэвіча.*



1. Якое няшчасце здарылася ў лесе?
2. Хто тушыў агонь? Як удалося прыпыніць яго?

3. Як паводзіла сябе птушка ў час пажару? Прачытайце адпаведныя радкі. Чаму яна біла ратавальнікаў крыламі, шыпела, а пазней нават дзеўбанула Рыгорку ў патыліцу?
4. Якую дапамогу аказалі цяцерцы з цецеранятамі героі апавядання? Ацаніце іх учынак.
5. На якую тэму напісаны гэты твор?



Перакажыце змест твора па пытаннях.

1. Якая бяда здарылася ў лесе?
2. Што прапанаваў ляснік Макаед, каб спыніць агонь?
3. Каго ўбачыў Рыгорка на зямлі?
4. Якім чынам цяцерка ратавала сваіх дзяцей ад агню?
5. Што зрабілі героі апавядання, каб дапамагчы птушкам у бядзе?
6. Як паводзіла сябе цяцерка-маці ў час дапамогі?
7. Што хвалявала Рыгорку, калі яны пераносілі птушынае гняздо?
8. Чаму ўзрадаваліся героі апавядання?

### ПРЫКАЗКІ

- Радзіма — маці, умей за яе пастаяці.
- Усякаму мілая свая старана.
- У родным лесе і куст родны.



Прачытайце загадкі. Пра якія палявыя расліны гаворыцца ў іх? Пры чытанні звяртайце ўвагу на правільнае вымаўленне гукаў [ў], [дз’], [г], [ж], [ч], [ц’].

## ЗАГАДКІ



**Ж**оўтае мора ля вёскі
**Ц**іха шапо**ч**а, шумі**ць**.
Сіняе во**ч**ка валошкі
Светла навокал **глядзіць**.



За даро**г**аю на полі
Пры**г**а**ж**ун **сця**ной стаі**ць**.
Стройны, соне**ч**ны, вясёлы,
Завушніцамі звіні**ць**.

*Міхась Пазнякоў.*



***Спóрыцца*** — ідзе паспяхова, удала.
***Дбáйна*** — *тут:* работа ідзе паспяхова, хлеб убіраюць старанна.

## Песня хлебу

*Пятрусь Броўка*

Водар хваёвы,
Сіняе неба,
Кожнае ранне
Рады я хлебу.

Рады я ўсходам
Веснімі днямі
І як гамоніць
Ён каласамі.

Рады — увосень
Спорыцца дбайна —
Медным ручайкам,
Што з-пад камбайна.

Большай не маю
Сёння патрэбы —
Кожнае ранне
Рады я хлебу.

Хлеб праз вітрыны
Кожнага кліча,
Сам на паліцы
Сеўшы як быццам.

Ах, як прывабна
Ён выглядае...
Я перад хлебам
Шапку здымаю.

Як нагляджуся,
Дык прыгадаю
Поле без краю
Кожнага краю;

Тых, хто на полі
З лецейка ў лета...
Дзякуй ім, родным,
Дзякуй за гэта!



1. Чаму радуецца паэт кожнае ранне?
2. Як вы разумееце сэнс радкоў:

   «Хлеб праз вітрыны
   Кожнага кліча
   Сам на паліцы
   Сеўшы як быццам»?

3. Чаму аўтар здымае шапку перад хлебам?
4. Якім прыгадвае паэт хлебнае поле? Знайдзіце і зачытайце адпаведныя радкі.
5. Каму Пятрусь Броўка выказвае падзяку за хлеб на сваім стале? Прачытайце.
6. Падумайце, якія словы трэба вылучыць голасам пры чытанні апошніх радкоў верша.



1. Разгледзьце рэпрадукцыю карціны Юрыя Мікалаева «Хлябы».



2. Адкажыце на пытанні.

1) Што адлюстравана на стале? Пералічыце.

2) Якія прадметы з'яўляюцца галоўнымі на карціне?

3) Як выглядаюць хлябы? Якія фарбы выкарыстаў мастак?

4) Чаму побач з хлябамі намаляваны каласы, зярняткі і соль?

5) Чаму ў народзе кажуць: «Хлеб — усяму галава»? Як вы гэта разумееце?

6) У чым сугучныя верш Петруся Броўкі «Песня хлебу» і карціна Юрыя Мікалаева «Хлябы»?

## Праверце свае веды і ўменні

*Ведаю...*

1. З якіх твораў узяты гэтыя словы? Хто іх аўтар?

а) «Куды ні глянь — лясы шумяць,
за полем — рэчка, гай.
І ў сэрцы песні не стрымаць
пра мой любімы край»;

б) «Не проста ў словы я гуляю —
На мове роднай размаўляю.
У час світальны, вечаровы
Кажу пяшчоты цёплай словы...»;

в) «Падобная на хатнюю курыцу, шэрая цяцерка заўзята аддзірала кіпцюрамі верхні пласт сухога перагною. Цяцерка ратавала ад агню сваіх дзяцей!»;

г) «Ах, як прывабна
Ён выглядае...
Я перад хлебам
Шапку здымаю».

2. Пра які сімвал Радзімы гаворыцца ў наступных радках:

«У канцы жніўня, перад вандроўкай у далёкую Афрыку, (яны) збіраюцца ў вялікія чароды і падоўгу кружацца ў небе. Высока-высока, пад самымі воблакамі. Проста над буслянкамі і хатамі. Так яны развітваюцца з радзімаю да наступнай вясны»?

### *Разумею, магу растлумачыць...*

1. Якой агульнай тэмай аб’яднаны ўсе вершы і апавяданні гэтага раздзела?

2. Чаму ў адных творах слова ***радзіма*** напісана з малой літары, а ў іншых — з вялікай?

3. Чаму трэба цаніць і берагчы нашу спадчыну (мову, помнікі, сімвалы Беларусі)?

4. Як вы разумееце сэнс прыказкі «У чужой староне не так свеціць сонца»?

### *Умею...*

1. Вызначыць настрой вершаў «Мой край» Адама Русака і «На мове роднай» Міколы Мятліцкага.

2. Перадаць адпаведны настрой і інтанацыю пры чытанні вершаў «Песня хлебу» Петруся Броўкі і «Песня пра Мінск» Пімена Панчанкі.

3. Падрабязна пераказваць па пытаннях змест апавядання Уладзіміра Мяжэвіча «Цяцерка» і гісторыю аб паходжанні бусла з апавядання Уладзіміра Ягоўдзіка «Бусел» па плане.

4. Скласці прыказкі і растлумачыць іх сэнс:

а) маці, | за яе | Радзіма — | умей | пастаяці.

б) Радзімы, | салавей | песні. | без | што | Чалавек | без

# ДОБРЫ ЧАЛАВЕК І ЖЫВЁЛУ ШКАДУЕ



**Мы працягнем знаёмства** з творамі пра ста́ўленне да птушак і звяроў, пра добрыя і дрэнныя ўчынкі людзей у адносінах да прыроды.

**Мы будзем вучыцца:**

- вызначаць рысы характару дзейных асоб у творах;
- тлумачыць учынкі герояў, разумець адносіны аўтара да іх;
- выказваць свае адносіны да персанажаў, іх учынкаў і зместу твора.

**Мы навучымся:**

- знаходзіць у творы партрэт дзейнай асобы;
- называць у вывучаных творах галоўнага героя, вызначаць здзейснены ім учынак і яго прычыну.

# Сябры прыроды

*Ніна Галіноўская*



Нас кліча дрэва кожнае,
Травінка і ручэй.
Вядзе сцяжынка росная.
Не адставай, хутчэй.

Усюды мы жаданыя —
У полі і ў бары.
Прыроды мы адданыя,
Надзейныя сябры.

Нас птушкі, насякомыя,
Жывёлы і звяры,
Дагэтуль не знаёмыя,
Вітаюць, як сябры.

Усюды мы жаданыя —
У полі і ў бары.
Прыроды мы адданыя,
Надзейныя сябры.

У сонейка, у месяца
Бываем у гасцях.
Зялёна, светла сцелецца
Наш у прыродзе шлях.

Усюды мы жаданыя —
У полі і ў бары.
Прыроды мы адданыя,
Надзейныя сябры.



1. Хто апавядае ў вершы: паэт ці юны натураліст? Дакажыце.
2. Куды накіраваліся сябры прыроды? З якой мэтай яны падарожнічаюць? Як гэта іх характарызуе?
3. Чаму звяры ветліва сустракаюць гэтых вандроўнікаў? Паразважайце.
4. Што значыць «У сонейка, у месяца бываем у гасцях»?
5. Як вы разумееце сэнс радкоў:

   «Зялёна, светла сцелецца
   Наш у прыродзе шлях»?

6. Вывучыце верш на памяць.

## НАРОДНЫЯ ЗАГАДКІ ПРА ЖЫВЁЛ



- Маленькі шарык пад лаўкаю шна́рыць.

- Касматы, вусаты, есці пачынае — песенькі спявае.

- Ходзіць па двары, на нагах — кіпцюры, белае каменне нясе.





- Не кароль, а ў кароне; не гуса́р, а пры шпорах; гадзінніка не мае, а час знае.

- З-за куста шыпу́ля, за нагу цапу́ля.









- Без станка, без рук, а кросны тчэ.
- Доўгі насок, тонкі галасок, хто яго заб'е, той сваю кроў пралье.
- Чоран, ды не воран, рагаты, ды не бык, шэсць ног без капыт, ляціць — вые, сядзе — зямлю рые.



З апорай на схему складзіце загадку пра жывёлу.

**ЗАГАДКІ**

| з дапамогай **пытання** | з дапамогай **апісання** | з дапамогай **супрацьпастаўлення** |
| --- | --- | --- |
| Хто на сабе хатку носіць? *(Слімак.)* | Шапачка маленькая, камізэлечка няткканая, кафтанік рабенькі, ды ходзіць босенькі. *(Верабей.)* | Не рыба, а плыве; не конь, а ідзе; не піла, а рэжа. *(Бабёр.)* |



1. Уважліва разгледзьце рэпрадукцыю карціны амерыканскага мастака Дональда Золана з серыі «Мілыя дзеці».



2. Адкажыце на пытанні.

1) Як выглядае на партрэце дзяўчынка? Якога колеру ў яе валасы? Вочкі? У што яна апранута?

2) Каго трымае дзяўчынка? Як выглядае коцік? Вусна апішыце яго.

3) Па чым бачна, што коцік задаволены?

4) Чаму аўтар паказаў дзяўчынку на фоне сонечнага святла?

5) Што хацеў увасобіць мастак у гэтай працы?



Прачытайце прыказкі. Як вы разумееце іх сэнс?

### ПРЫКАЗКІ

- І над сабакам трэба літасць мець.
- Жывёлу гладзь не рукой, а мукой.



Правільна вымаўляйце гукі [ў], [дз’], [г], [ц’] у пацешцы. Прачытайце яе павольна і ціха, хутка і радасна.

### ПАЦЕШКА

Ластаўка-каса́тка
Лепі**ць** сабе хатку.
Не хатку — **гняздзе**чка.
Знясе **ў** ім яе́чкі.
З я́ек за лета
Вы́**ведзе** **дзе**так.

*Ніна Галіноўская.*



***Гумно́*** — вялікая халодная будыніна для складвання і абмалоту збожжа.
***Аскаба́лак*** — кавалак, абломак чаго-небудзь.
***Тычы́на*** — вялікая палка, шост.

## Ластаўкі

Прыляцела ластаўка з далёкага выраю... Уляцела яна ў гумно, даведалася свайго даўнейшага леташняга доміка. А ён за зіму абсыпаўся, абвіс павуціннем... Туды прыляцела і другая ластаўка. Пашчабяталі яны ўдзвюх, пара́дзіліся і давай папраўляць сваю хатку. Кожны дзень па некалькі разоў прыляталі яны ў гумно; насілі

ў дзюбах клейкую гразь, замазвалі дзіркі і далей рабілі гняздзечка, каб яно было глыбейшае і большае. Доўга працавалі ластаўкі, і вылепілі яны харошанькае, кругленькае гняздзечка. Пасля насілі яны пёрцы і высцілалі імі дно. Са́мачка-ластавачка несла там свае маленькія, рабе́нькія яе́чкі.

Праз тыдні два з яечак выйшлі голенькія, маленькія птушачкі з жоўценькімі роцікамі. У тое гумно часта прыходзіў гаспадарскі сынок Пятрусь. Любіў ён, лёгшы на сене, пазіраць, як клапаціліся старыя ластаўкі, носячы корм для сваіх маленькіх дзетак. А маладзенькія ластавачкі садзіліся ў гняздзе ў рад і разяўлялі роцікі, як толькі прылятала да іх якая-небудзь старая ластаўка. Старыя клалі корм кожнай па чарзе. Пятрусь любіў на гэта пазіраць і, лежачы, ціха сам сабе смяяўся.

У Петруся быў сябар, сын суседа, яго равеснік Антось. Завяліся неяк за нешта хлопцы. Хітры і нягодны Антось, каб зрабіць злое Петрусю, прыйшоў раз у гумно, як не было Петруся там, і спароў тычы́наю гняздо, а сам уцёк. Бедныя, нявінныя птушачкі паскідаліся на сена. Жаласна зачырыкалі старыя ластаўкі, біліся, ляталі, кружыліся над беднымі сваімі дзеткамі. Пачуў Пятрусь іх трывожны крык і кулём кінуўся ў гумно. «Кот, мусіць!» — падумаў Пятрусь і ўзяў



аскаба́лак, каб пачаставаць ласуна, шэрага ката. А як забілася яго сэрца, як убачыў ён, што гнязда не было! Старыя ластаўкі кружыліся каля самага Петруся, усё роўна як прасілі ў яго дапамогі. Шкада было Петрусю маленькіх птушачак. Сядзелі яны, бедныя, у куточку і разяўлялі роцікі. Доўга думаў добры Пятрусь, як дапамагчы няшчасным дзеткам-ластавачкам. Усіх было цэлых пяць...



Што далей зробіць Пятрусь?
Як ён паступіць?

І вось што прыдумаў Пятрусь. Узлез ён на гумно, выдраў на са́мым валу ямку, абклаў яе пер'ем і збудаваў хітрае гняздзечка. Потым ён пабраў у шапку маленькіх ластавачак і палез з

імі на гумно. А каб шапка не перашкаджала яму лезці, ён узяў яе ў зубы. Узлезшы, палажыў ластавачак у зробленае ім самім гняздзечка. Старыя ластаўкі лёталі над Петрусём; яны не ведалі, што будзе рабіць з іх дзеткамі дабрадзей іх, Пятрусь. Паклаўшы ластавачак, Пятрусь злез з гумна і адышоўся, каб не баяліся яго старыя ластаўкі. Убачыўшы, што іх дзеткі ўсе, і ўсе жы́вы, старыя весела зашчабяталі і паляцелі лавіць мошак на полудзень для сваіх дзетак. А маленькім птушачкам тут было зусім добра, не горш нават, як у гумне. Па некалькі разоў на дзень лазіў Пятрусь на гумно паглядзець, як маюцца ластавачкі. А яны борзда раслі і харашэлі.

Як толькі падымалася хмара, збіраўся дождж, Пятрусь кі́даў работу, лазіў на гумно і накрываў гняздзечка разам з ластавачкамі, каб не нацякло туды вады. У Петруся бацька быў добры і не крычаў на яго за тое, што ён парасцягваў трохі на страсе салому, лазячы да сваіх птушачак. Толькі часам пасмяецца з яго і скажа яму: «Эх ты, ластаўчын бацька». Але Пятрусь за гэта не гневаўся і не сердаваў.

Старыя ластаўкі перасталі палохацца Петруся, бо ведалі, што не зробіць злога ім і іх дзецям. У добрае надвор’е маладыя ластаўкі вылазілі з гнязда і ўвесь дзень сядзелі на сонцы, а на ноч зноў хаваліся ў гняздо, зробленае Петрусём.

Прайшло тыдні два. Узлезшы на гумно, Пятрусь узяў у руку маладую ластавачку і павага́ў яе. Махнула яна крыльцамі, фуркнула і паляцела, а за ёю пападымаліся і ўзняліся і іншыя. Рад быў Пятрусь, што лётаюць ластавачкі (ён называў іх сваімі). Вось яны палёталі, пакружыліся і зноў прыляцелі на гумно. А дзянькі праз два яны ўжо лёталі разам са старымі і самі шукалі сабе пажывы. Вось як Пятрусь даў шчасце добрым нашым пры́яцелям — ластаўкам.

*Паводле Якуба Коласа.*



1. Якім чынам ластаўкам удалося зрабіць «харошанькае, кругленькае гняздзечка»? Чаму Якуб Колас так падрабязна апісаў іх працу? Перачытайце яшчэ раз гэты эпізод.
2. Ці можна назваць старых ластавак клапатлівымі і чулымі бацькамі? Дакажыце сваю думку радкамі з твора.
3. Чаму тата часам называў сына «ластаўчын бацька»?
4. Ацаніце ўчынак суседскага хлапчука Антося.
5. Як вы разумееце сэнс сказа «Вось як Пятрусь даў шчасце добрым нашым прыяцелям — ластаўкам»?



1. Падзяліце твор на сэнсавыя часткі.
2. Дайце ім загалоўкі. Перакажыце змест у адпаведнасці з планам.



***Плі́ска*** — невялікая пералётная птушка атрада вераб'іных з доўгім хвастом.
***Калы́ска*** — невялікі ложак, звычайна падвешаны да столі, у якім калышуць дзяцей.
***Само́та*** — смутак, туга.

## Добрае сэрца

*Авяр'ян Дзеружынскі*

Падзьмуў
Моцны вецер
Над рэчкай —
З берага
Ўпала гняздзечка
Ад плыні глыбокае
Блізка.
Няшчасце вялікае
Ў пліскі —
Загінуць
Яе дзіцянятки —
Маленькія плісянятки.

Па беразе крочыў
Хлапчынка.
Пачуў ён
Той самай хвілінкай,
Калі захацеў
Парыбачыць,



Што хтосьці
Ціліўкае-плача.
Тады аглянуўся
І ўбачыў — бяда,
Трох птушанятак
Затопіць вада.

Ляжалі яны
І не зналі,
Што поблізу
Плешчуцца хвалі,
А побач гняздо —
Іх калыска...
Тут лётала
Бедная пліска.

Да дзетак наблізіцца,
Сядзе,
Самота
Ў птушыным паглядзе,
У вочках
Такая трывога.

«Тут трэба
Мая дапамога», —
Падумаў хлапчук
І ў момант які
Прыладзіў гняздо
На грудку́, ля ракі,

Затым
У птушыную хатку
Прынёс
Трох малых птушанятак.
І пліска
Заўважыла гэта.
Яна прыляцела
Да дзетак.

Хлапчук
Рыбку ву́дзіў
І клаў у вядзерца.
Ён меў
Вельмі добрае
Сэрца.



1. Якое няшчасце здарылася ў плісکі?
2. Як яна паводзіла сябе ў час бяды? Прачытайце адпаведныя радкі. Аб чым сведчаць такія паводзіны птушкі?
3. Хто выратаваў плісянятак? Як гэты ўчынак характарызуе хлопчыка?
4. Пра якога чалавека кажуць, што ён мае добрае сэрца? Паразважайце.

## НАРОДНАЯ ПРЫКМЕТА

● Калі ластаўкі лётаюць то ўверх, то ўніз, чакай буры. Лётаюць нізка над зямлёй — на дождж, высока — на сухое надвор'е.



1. Разгледзьце малюнкі.













2. Адкажыце на пытанні.

1) Чым займаліся дзяўчынкі ў двары?
2) Што пачула Света ля свайго дома?
3) Каго ўбачылі дзеці на дрэве?
4) У каго Света папрасіла дапамогі?

3. Складзіце невялікае апавяданне па малюнках.

*Апорныя словазлучэнні і сказы:* цёплы лістападаўскі дзень; гулялі ў класікі; ціхае мяўканне; зірнула на дрэва; маленькае кацяня; сабра́ліся дзеці; Света паклікала бацьку; узяў лесвіцу; зняў з дрэва; дзякавалі Свеце і яе бацьку.



***Абры́длы*** *(разм.)* — які надакучыў, стаў непрыемным.
***Неспадзе́ўка*** — нечаканы, непрадбачаны выпадак, здарэнне.
***Сця́ўся*** — сціснуўся, сабраўся ў камячок.
***По́рхаўка*** — шарападобны грыб, мякаць якога пры высыханні ператвараецца ў цёмны пыл.
***Лязо́*** — востры край прылады, якой сякуць або рэжуць; вастрыё.

## Ножык

*Аляксей Якімовіч*

Упёршыся абедзвюма рукамі, Дзіма адчыніў шэрыя металічныя дзверы пад'езда і выйшаў на двор.

Непадалёку на асфальце шчыльным колам стаяць хлопчыкі з суседніх пад'ездаў. Як відаць, захопленыя нейкай цікавай гульнёй, яны дружна і весела рагаталі.

Дзіма намацаў у кішэні ножык і цвёрдым, упэўненым крокам накіраваўся да хлопцаў.

Ножык-складанчык сёння Дзіму падарыў тата.

— Вось табе мой падарунак, грыбнік, — сказаў, усміхнуўшыся.

Так, Дзіма часта з бацькам ходзіць у грыбы, любіць іх збіраць, асабліва баравікі, падасінавікі.

Цяпер у яго, як у сапраўднага грыбніка, ёсць ножык. Зараз ён пакажа яго хлопцам, быццам незнарок выцягнуўшы з кішэні. Канешне, яны здзівяцца і, напэўна, пазайздросцяць яму.

Дзіма наблізіўся да сяброў і ад неспадзеўкі шырока расплюшчыў вочы, падобныя на два чорныя гузічкі.

У цэнтры жывога кола на кукішках сядзеў Дзімаў аднакласнік Юра (яны сёлета перайшлі ў чацвёрты клас) і двума пальцамі трымаў тонкую белую нітку, якая была прывязана за левую лапку маленькага натапыранага верабейкі.

— Вы тут што робіце? — вырвалася ў Дзімы.

Пачуўшы Дзімаў голас, верабейка ўстрапянуўся і прыўзняў ускудлачаны хвост, як бы намерваючыся ўзляцець у неба.

«Ён зразумеў, што я яго шкадую, спадзяецца, што дапамагу», — падумаў Дзіма і мацней



сціснуў у кішэні гладкую, адпаліраваную ручку ножыка.

— Мы гуляем! — павёў шырокімі плечукамі Юра і з сілай пацягнуў за нітку.

Верабейка нязграбна бокам упаў на асфальт і затрапятаў правай лапкай, намерваючыся скінуць з левай абрыдлую нітку.

Хлопцы зарагаталі, загудзелі, усцешаныя, а верабейка прыўстаў і затрос цёмна-шэрай галоўкай. На ягоным горлачку, прабіваючыся праз ускудлачанае пер’е, захадзіла, запульсавала нейкая жылачка. Бываючы з бацькам у лесе, Дзіма не раз і не два назіраў за птушкамі, любаваўся імі, слухаў іхнія спевы.

— Чуеш, сынок, як стараюцца сябры нашы меншыя? — аднаго разу заўважыў бацька.

«Меншым звычайна дапамагаюць большыя. Выходзіць, мы, людзі, птушкам павінны дапамагаць», — тады адзначыў пра сябе Дзіма.

— Птушка, камячок пер’я, можна сказаць, а таксама нешта разумее, — зірнуўшы на Дзіму, важна, як знаўца, прагаварыў Юра.

Дзіма нагнуўся, хацеў паглядзець верабейку, а ён зусім сцяўся, прыціснуўся да зямлі.

— Разумее, баіцца! — засмяяўся Юра, паказаўшы шчыльныя, востранькія зубкі.

Дзімава рука застыла ў паветры.

— Ты як яго злавіў?

Вераб'і, ведаў Дзіма, птушкі хітрыя, асцярожныя, у рукі не даюцца.

— Акно на кухні адчыніў і крошак хлеба на стол насыпаў. Ён пазіраў, пазіраў здалёку, не вытрымаў і заляцеў на кухню. Тут я з кута́ выскачыў і шапкай яму як даў! З першага разу пацэліў, не верыш? Думаў, што забіў ці пакалечыў. Аж не! Як бачыш, жывы, цэленькі застаўся, — кароткім тоўстым пальцам Юра дакрануўся да белай папяровчнай палоскі на крыле.

Верабейка адкрыў дзюбку і жаласна ціўкнуў.

— Просіцца, каб выпусціў, — зноў важна, як знаўца, прагаварыў Юра.

— А ты выпусці! Выпусці яго! — падхапіў Дзіма і дастаў з кішэні новенькі бліскучы ножык. — Я нітку перарэжу, давай.

— Бацька купіў яму ножык, у грыбы будуць хадзіць, — выказаў здагадку адзін з хлопчыкаў.

— Але, — кіўнуў галавою Дзіма і прамовіў з надзеяй: — Я перарэжу?

Юра надзьмуў шчокі. Ягоны твар стаў падобны на спелую порхаўку.

— Шкадуеш вераб'я?

— Шкадую, — прызнаўся Дзіма.

— Свой ножык мне аддай, назусім. За ножык выпушчу.



Хлопцы перасталі гаманіць, сцішыліся.



Як закончацца падзеі ў апавяданні?

«Вух!» — з грукатам зачыніліся ў пад'ездзе цяжкія металічныя дзверы.

Дзіма ўздрыгнуў.

— Аддасі? — напомніў Юра. Па ягоным загарэлым ілбе прабегла маршчынка, падобная на павуцінку.

Дзіма непрыкметна змахнуў рукавом дзве слязінкі, што набеглі на вочы-гузічкі.

— Ну! — прыўстаў Юра.

— Аддам, але спачатку нітку на лапцы пераразжу.

Дзіма ўзяў верабейку і вострым лязом ножыка асцярожна разрэзаў на лапцы туга завязаную нітку. Затым адышоў убок, падкінуў птушку ўгору і ціха сказаў:

— Ляці, верабейка!



1. Каго ўбачыў Дзіма ў двары?
2. Што ўразіла хлопчыка, калі ён падышоў да сяброў?
3. Як паводзіў сябе палонны верабейка сярод хлапчукоў? Знайдзіце і зачытайце адпаведныя ўрыўкі.
4. Як вы ахарактарызуеце Юру?
5. Чаму Дзіма ахвяраваў сваім ножыкам дзеля свабоды верабейкі? Як вы ацэньваеце ўчынак хлопчыка?
6. Ці аддалі б вы свой дарагі бацькоўскі падарунак у падобнай сітуацыі?



Перакажыце змест твора па пытаннях.

1. З кім сустрэўся Дзіма ў двары?
2. Адкуль у хлопчыка з’явіўся ножык-склада́нчык?
3. Каго ўбачыў Дзіма ў цэнтры кола сяброў?
4. Што адказаў Юра на пытанне Дзімы?
5. Як паводзіў сябе палонны верабейка?
6. Дзе Дзіма назіраў за птушкамі раней?
7. Як верабейка апынуўся ў палоне?
8. Аб чым папрасіў Дзіма ў Юры?
9. Чым прыйшлося заплаціць хлопчыку за свабоду птушкі?



***По́ўнач*** — мясцовасць з халодным, суровым кліматам.
***Паро́ша*** — свежы снег, які толькі што выпаў.

## Чаму ў трывозе Дзед Мароз?

*Эдзі Агняцвет*

Закружыўся верталёт
Над узлескам, над палянай.
Прызямліўся Дзед-пілот,
На паляну з жахам глянуў.

— Як змяніўся гэты бор!
Быў ён весні, чысты, звонкі.
Ад сініц сінеў прастор,
І свяціліся сасонкі.

І на Поўначы я сніў,
Як скакала тут вавёрка,
Дзяцел шышкі ёй насіў
На вячэру адвячоркам.

Я да вас вярнуўся зноў
З першым інеем, з парошай.
Толькі знаку не знайшоў
Ад мясціны той прыгожай...

Пазірае Дзед Мароз
З-пад заснежанай вушанкі:
— Не паляна — смецця воз!
Тут абноскі, там бляшанкі.

І якія дзікуны
Тут улетку бушавалі?
Лапак елкі і сасны
Для кастроў не шкадавалі...

Я ж хачу, каб на зямлі
Нават самыя малыя
Шанавалі, берaглі
Нашы радасці лясныя.

Не чапалі мурашоў,
Будавалі дом шпачыны,
Каб любілі край бацькоў,
Кожны кут сваёй Айчыны!



1. Чаму занепакоіўся Дзед Мароз у час прызямлення на паляну? Прачытайце.
2. Якім успамінаецца Дзеду Марозу гэты бор? Прачытайце адпаведныя радкі з верша.
3. Хто вінаваты ў тым, што лес стаў такім непрыглядным?
4. З якім наказам звяртаецца Дзед Мароз да людзей?
5. Чаму патрэбна берагчы прыроду?

## Праверце свае веды і ўменні

*Ведаю...*

1. Якія творы заканчваюцца так:

а) «Хлапчук
Рыбку вудзіў
І клаў у вядзерца.
Ён меў
Вельмі добрае
Сэрца»;

б) «Я ж хачу, каб на зямлі
Нават самыя малыя
Шанавалі, берaглі
Нашы радасці лясныя»?

2. Да якіх твораў зроблены гэтыя малюнкі? Хто аўтар гэтых твораў?





3. Пра каго ідзе гаворка ў наступных радках? У якіх творах?

а) «Нас птушкі, насякомыя,
Жывёлы і звяры,
Дагэтуль не знаёмыя,
Вітаюць, як сябры»;

б) «Кожны дзень па некалькі разоў прылятaлі яны ў гумно; насілі ў дзюбах клейкую гразь, замазвалі дзіркі і далей рабілі

гняздзечка, каб яно было глыбейшае і большае»;
в) «Хлопцы зарагаталі, загудзелі, усцешаныя, а (ён) прыўстаў і затрос цёмна-шэрай галоўкай. На ягоным горлачку, прабіваючыся праз ускудлачанае пер’е, захадзіла, запульсавала нейкая жылачка».

### *Разумею, магу растлумачыць...*

1. Якія мудрыя ўрокі вы атрымалі, прачытаўшы вершы і апавяданні гэтага раздзела?

2. Хто з герояў выклікаў у вас сімпатыю і захапленне? Чаму можна ў іх павучыцца?

### *Умею...*

1. Прывесці прыклады добрых і дрэнных учынкаў персанажаў з вывучаных твораў раздзела.

2. Пераказваць змест апавядання Аляксея Якімовіча «Ножык» па пытаннях.

3. Перадаць адпаведны настрой і інтанацыю пры чытанні вершаў «Добрае сэрца» Авяр’яна Дзеружынскага і «Чаму ў трывозе Дзед Мароз?» Эдзі Агняцвет.

4. Суаднесці прозвішчы аўтараў і назвы іх твораў.

| | |
|---|---|
| *А. Якімовіч* | «Ластаўкі» |
| *Я. Колас* | «Чаму ў трывозе Дзед Мароз?» |
| *Э. Агняцвет* | «Ножык» |

# ЗІМОВЫ ДЗЯНЁК, ШТО КАМАРОЎ НАСОК



**Мы працягнем чытаць і вывучаць** творы пра прыгажосць зімы, пра забавы дзяцей у гэту пару года; пра захаванне нацыянальных традыцый і зімовыя святы.

**Мы будзем вучыцца:**

- вызначаць настрой паэтычных твораў;
- маляваць словамі карціны зімовай прыроды;
- вылучаць у тэксце мастацкія словы;
- выказваць свае адносіны да прачытанага.

**Мы навучымся:**

- знаходзіць у творах гэтага раздзела апісанне зімовага пейзажу;
- выразна чытаць вершы (захоўваць інтанацыю сказа, паўзы і патрэбны тон), перадаваць іх настрой.

## ЯКУБ КОЛАС



Нарадзіўся Якуб Колас у вёсцы Акінчыцы на Стаўбцоўшчыне ў сям'і лесніка. З маленства ён разам з бацькамі пераязджаў з адной леснічоўкі ў другую. Жыццё ў лясной глушы давала магчымасць уражліваму хлопчыку адчуць чароўную прыгажосць беларускіх краявідаў. Пазней дзіцячыя ўражанні пісьменніка ляглі ў аснову многіх вершаў і апавяданняў, прысвечаных непаўторнай прыгажосці прыроды Беларусі.

Якуб Колас напісаў для дзяцей паэму «Міхасёвы прыгоды», казку «Рак-вусач» і іншыя творы.



***Шэ́рань*** — іней.
***Журбо́тна***, ***марко́тна*** — сумна, тужліва.

## Зіма

*Якуб Колас*

Надышлі марозы,
Рэчкі закавалі,
Белыя бярозы
Шэранем убралі.

Замялі дарогі
Ветрыкі снягамі.
Лес, як дзед убогі
З доўгімі вусамі.

Апусціў галіны
І стаіць журботна,
Зрэдку верхавіны
Зашумяць маркотна.

Мяккая пярына
Вочы адбірае.
Белая раўніна —
Ні канца ні краю.

Пад пялёнкай белай
Травы і лісточкі.
Рэчка анямела,
Змоўклі ручаёчкі.

Амярцвелі лозы,
Чуць галлём хістаюць,
А ў палях марозы
Ды вятры гуляюць.





1. Якія карціны зімы вы ўяўлялі ў час чытання? Вусна апішыце іх.
2. Як паэт апісвае ў творы рэчку, бярозы, дарогі і лес? Прачытайце адпаведныя радкі. Што аўтар гаворыць пра вятры і маразы?

3. Растлумачце сэнс сказаў: «Мяккая пярына вочы адбірае» і «Рэчка анямела». Якія яшчэ словы дапамаглі Якубу Коласу ажывіць зімовую карціну, наблізіць яе да паводзін чалавека? Знайдзіце іх і зачытайце.
4. З кім параўнаў аўтар зімовы лес? Прачытайце.
5. Якія словы ў творы рыфмуюцца? Знайдзіце і прачытайце іх.
6. Вывучыце верш на памяць.



1. Разгледзьце рэпрадукцыю карціны расійскага мастака Яўгена Балакшына «Катанне з горкі».



2. Адкажыце на пытанні.

1) Якая пара года адлюстравана на карціне? Па якіх прыкметах можна здагадацца?

2) Дзе адбываюцца падзеі: у вёсцы ці ў горадзе? Дакажыце.

3) Хто паказаны на пярэднім плане?

4) Як выглядаюць дзеці? У што яны апрануты і абуты? Чым заняты?

5) Чаму іх твары радасныя і вясёлыя?

6) Як паводзіць сябе сабачка?

7) Якіх фарбаў — цёплых ці халодных — прысутнічае на карціне больш?

## НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ

- Вароны садзяцца на верхавіны дрэў — будзе вецер.
- Калі вароны каркаюць — будзе мароз.
- Вераб'і дружна расчырыкаліся — пацяплее.
- Кошка — на печ, сцюжа — на двор.
- Калі на небе ясны месяц, як ражок, — будзе сцюжа.
- Зоркі ярка блішчаць — на мароз.
- Дым з коміна ідзе слупом — будзе мароз.
- Калі ноччу быў іней, днём снегу не будзе.
- У лютым востры мароз — кароткая зіма.



Распытайце бацькоў, якія яны ведаюць народныя прыкметы пра зіму. Запомніце адну з іх.



**У час чытання верша правільна вымаўляйце гукі [дз’], [ў], [г], [ч] і падоўжаныя.**

### СНЯЖЫНКІ-СМЯШЫНКІ

Поўнай жменяю на Зінку
Сыпануў дубок сняжынкі:
Не сякучкі-халадзінкі,
Не пякучкі-маразінкі,
А вясёлыя смяшынкі.
— Ха-ха-ха, —
Смяецца Зінка
І сама трасе галінкі.

*Іван Муравейка.*



***Чарэ́пак*** — адколатая частка гладыша.
***Кудзе́ля*** — валакно лёну, апрацаванае для пражы.

## Снежны дзед

*Ніл Гілевіч*

Колькі шуму, колькі смеху:
Дзеда лепім мы са снегу!
Задала зіма работы —
Па двары кацілі ўтрох
І паставілі ля плоту.
Дзед стаіць, хоць і без ног.

Замест рук уткнулі палкі,
Вочы — вугалю кавалкі,
Нос — чарэпак з гладыша́,
Барада — шматок кудзелі,
А на лысіну надзелі
Кош замест капелюша.

Ну і дзед! Відаць, яму
Тут стаяць усю зіму.
Будзе ён тут па начах
Наганяць на зайцаў страх,
Каб не бегалі сюды
Сад псаваць наш малады!







1. З якім настроем патрэбна чытаць верш «Снежны дзед»? Чаму?
2. Пра якую зімовую забаву дзяцей гаворыцца ў гэтым творы?
3. Як Ніл Гілевіч падае́ знешні выгляд снежнага дзеда? Знайдзіце і прачытайце.
4. Як вы разумееце сэнс сказа «Задала зіма работы»?
5. З якой мэтай дзеці вырашылі зляпіць снегавіка? Прачытайце.



***Дба́йны*** — старанны, руплівы.
***Сумёт*** — наме́ценая ветрам гу́рба снегу.

## Белыя ключы

*Мікола Маляўка*



Пахаладала раптам —
І зіма ўначы
Перадала марозу
Белыя ключы.

Пазамыкаў мароз,
Румяны і бадзёры,
Крыніцы ўсе жывыя,
Рэкі і азёры.

Як дба́йны вартаўнік,
Замкі́ праверыў потым —
І сам ключы схаваў
Пад снегавым сумётам.

Цяплом дыхне вясна,
Вярнуўшыся здалёк,
Ключы пад тым сумётам
Знойдзе ручаёк.



1. Чаму паэт так назваў свой верш? Паразважайце.
2. Якія малюнкі апісвае аўтар? Знайдзіце адказ у вершы.

3. З дапамогай якіх слоў паэт ажыўляе мароз, робіць яго падобным да чалавека? Прачытайце.
4. З кім аўтар параўноўвае мароз? Чаму?
5. Растлумачце сэнс двух апошніх радкоў верша.
6. Якія радкі твора сугучны з карцінай Барыса Казакова «Снег выпаў»? Прачытайце іх.



## ЗАГАДКІ

Чырванеюць шчокі, нос.
Іх фарбуе нам … .







Яна зімойваўчыцай злой
У полі вые глуха.
Ты здагадаўся, дружа мой,
Што гэта … .



Прачытайце верш. Правільна вымаўляйце гукі [дз’], [ц’], [г], [ў].

## ЗІХАТЛІВЫЯ СНЯЖЫНКІ

Па зямельцы **Дзе**д Мароз
Поўны мех сняжынак нёс.
Рассява**ў** іх па палях,
Па лясах і па лу**га**х,
Рассява**ў** па **ў**сіх **сця**жынках
Зіхатлівыя сняжынкі,
Каб святлей было на све**це**,
Каб **гу**лялі з імі **дзеці**.

*Пятро Сушко.*



***Выраза́нка*** — зроблены з дапамогай нажніц папяровы малюнак ці ўзор.

***Крыжаві́на*** — два брусы, змацаваныя ў выглядзе крыжа, з адтулінай, у якую ўстаўляецца ствол елкі.

***Купча́сты*** — пра дрэвы, кветкі: з пышнай густой кронай.

***Местачко́вы*** (доктар) — які жыве ў мястэчку (пасёлку гарадскога тыпу).

***Храбусну́ць*** — утварыць хруст, трэск.

***Шту́чная*** (ёлка) — ненатуральная, зробленая чалавекам.

# Елка з белымі кветкамі

*Васіль Хомчанка*

Ці цвітуць елкі, ды яшчэ белымі кветкамі? Ска́жаце — не? А я такую елку бачыў у дзяцінстве...

Было гэта вельмі даўно. Я жыў у маленькім гарадку — іх тады называлі мястэчкамі. Надыходзіў Новы год. Елкі ў нас не прадаваліся, як у вялікіх гарадах. Кожны здабываў сабе яе сам...

Узяў і я сякеру і падаўся ў лес.

Выбраў сабе елачку і пачаў разграбаць валёнкамі пад ёю снег. Елачка была прысадзістая, стройная, купчастая. Я прыўзняў угору ніжнія галінкі, замахнуўся сякерай — і ўтрымаўся, не сакануў. Мне здалося, што елачка ад страху не то ўсхліпнула, не то рыпнула. Елачка хацела жыць...

З самых малых год я шкадаваў усё жывое: птушак, звяроў, дрэвы, траву. Ніколі без патрэбы не ламаў голле дрэў, не рваў кветак проста так, як некаторыя: сарве, панюхае і кіне.

Але гэту елачку хоць шкадаваў, а ўсё ж ссек. Ударыў сякерай па камлі, дрэўца пачало хіліцца, чапляцца лапкамі за сваіх сясцёр-елачак. Яшчэ раз сакануў, яна калыхнула вяршынькай, храбусну́ла валокнамі і замерла на снезе.

Елачцы абрадаваліся сястра, брацікі. Мы паставілі яе ў крыжавіну, упрыгожылі цацкамі і выразáнкамі з каляровых паперак. Прыгожая атрымалася ёлка. Каля яе мы скакалі, спявалі песенькі, вадзілі карагод, гулялі ў Дзеда Мароза і Снягурачку. І я гуляў і быў рады, што выбраў у лесе такую цудоўную елачку.

Назаўтра, ужо на Новы год, да мяне завітаў мой сябар Славік, які жыў на другім канцы гарадка. Я адразу ж пачаў хваліцца сваёй ёлкай.

Славік абыякава сказаў:

— Звычайная ёлка. Дні праз два ты яе выкінеш на сметнік.

Ён паглядзеў на мяне так, што я зразумеў: Славік зараз паведаміць мне нешта асаблівае. І ён сказаў:

— На нашай вуліцы ёсць навагодняя ёлка... з белымі кветкамі.

— Ты што, якія на ёлцы кветкі?

— Такая ёлка ў Івана Сяргеевіча. Хочаш пабачыць яе?

Іван Сяргеевіч — наш мястэчковы доктар. У яго на дзіва багаты сад з рознымі рэдкімі раслінамі.

Мы пайшлі да Івана Сяргеевіча. Дарогай да нас далучылася чарада дзяцей, бо ўжо многія пачулі пра незвычайную ёлку.

У дом доктара Славік зайшоў спачатку адзін, каб спытаць дазволу прывесці сяброў. Праз некалькі хвілін паклікаў і нас.

Я пераступіў парог першы і ад здзіўлення застыў на месцы.



Што за ёлку ўбачыў герой у хаце?
Як яна была ўпрыгожана?

Каля акна ў кадушцы... цвіла вішня. Уся яна была ў белай квецені, быццам у маі, калі ўсё цвіце. Маленькія свечачкі, якія доктар запаліў на вішні, асвяцілі яе зіхатлівым жоўтым святлом. Мы і пах вішні адчулі — тонкі, ледзь улоўны. «Як малаком аблітыя, стаяць сады вішнёвыя...» — міжволі прыйшло на памяць.



Усе маўчалі, уражаныя такім дзівам. Так ціха было ў доме, што мы нават чулі патрэскванне свечак.

— Падабаецца? — спытаў Іван Сяргеевіч. Ён быў вельмі задаволены, што яго навагодняя «ёлка» так нас уразіла. Зняў з вішні цукеркі і пачаставаў нас. А потым павесіў новыя, для іншых дзяцей, якія, вядома ж, прыйдуць таксама падзівіцца на гэту «ёлку».

— Як жа яна зацвіла? — спыталі мы.

Іван Сяргеевіч спачатку расказаў нам вось што:

— Калісьці нашы продкі вельмі любілі вішні. У іх быў нават бог вішань — Кёрніс. І было ў іх так заведзена: вішні вырошчвалі ў кадушках, а зімою, пад Новы год, прымушалі іх цвісці. За акном сумёты да стрэх, завіруха гудзе, а на покуці вішня ў квецені, аздобленая стужкамі ды свечкамі. Прыгожа і святочна. І так сустракалі кожны Новы год.

А потым хтосьці палічыў (нейкі, відаць, гультаяваты чалавек), што вельмі клапатліва — вырошчваць, а потым сустракаць Новы год з такімі вішнямі, і замяніў іх елкай. Пайшоў у лес, ссек, прынёс і паставіў. Проста і лёгка.

— А як жа вішню прымусіць зацвісці менавіта пад Новы год? — спытаў я.



— Трэба толькі захацець. Не вельмі ўжо і складана. У мяне да самага снежня вішанька гэта стаяла на холадзе. А потым яе ў пакой перанёс. Да светлага акна паставіў. Паліваў цёплай вадой, падкормліваў. Дрэўца і пайшло ў рост, зацвіло. У наступны Новы год у мяне зацвіце бэз. Прыходзьце паглядзець.

Вярнуўся я дамоў, зірнуў на сваю ёлку — вельмі шкада мне стала яе. Навошта я загубіў дрэўца? Няхай бы расло ў лесе, калыхала птушак, шапталася з ветрам...

Праз некалькі дзён ёлка амаль уся асыпалася, і я выкінуў яе на двор. Там ляжала ўжо шмат такіх ёлак.

І вось з таго далёкага часу я не прыношу перад Новым годам елкі ў хату... Праўда, цяпер

можна замяніць жывую елку штучнай — капронавай, купіць у магазіне — на ўсё жыццё хопіць. У мяне ж, як калісьці ў Івана Сяргеевіча, на Новы год зацвітае якое-небудзь дрэўца: вішня, чарэшня, бэз, чаромха. Або ўскіпіць ружаватай пенай яблыневая галінка. Прыходзяць да мяне людзі, дзівяцца з незвычайнай «ёлкі».

Гадоў сорак я сустракаю Новы год з такой «ёлкай». Колькі ж я збярог дрэў за гэты час? Цэлы гай!



1. Чаму аўтару ў дзяцінстве даводзілася самому прыносіць дадому елачку перад Новым годам?
2. Як пісьменнік апісвае елачку?
3. Чаму падлетку было цяжка ссякаць дрэўца? Падмацуйце адказ радкамі з твора.
4. Якую незвычайную навіну паведаміў Славік, завітаўшы да сябра?
5. Як выглядала навагодняя вішня ў хаце доктара Івана Сяргеевіча? Зачытайце яе апісанне. Якія ўражанні выклікала яно ў вас? Чаму?
6. Што расказаў доктар дзецям пра навагодняе свята ў старажытных славян? Перакажыце змест яго аповеду.
7. Чаму пісьменнік, калі стаў дарослым, больш ніколі не прыносіў дамоў перад Новым годам елачку? Як гэта характарызуе яго?



***Каля́ды*** — народнае зімовае свята. Працягваецца два тыдні.

## Цудоўныя святы

*Васіль Жуковіч*



Вялікую радасць
на вуліцы, у хаты
прынеслі Каляды,
зімовыя святы,

прынеслі забавы,
і жарты, і песні,
загадкі, і гульні,
і танцы прынеслі.

Не спі, пані скрыпка,
і, бубен, прачніся, —
цудоўныя святы
ў нас пачаліся.



1. Калі беларусы святкуюць Каляды? Якія традыцыі захоўваюцца дарослымі і дзецьмі на гэта свята?
2. Якую ролю ў жыцці людзей адыгрываюць зімовыя святы? Адказ падмацуйце адпаведнымі радкамі з верша.
3. Да каго паэт звяртаецца ў апошнім слупку верша? Хто хаваецца за вобразамі пані скрыпкі і бубна?
4. Як адносіцца, на вашу думку, аўтар гэтага верша да зімовых свят?



***Капа́*** — даўнейшая мера лічэння: 60 штук чаго-небудзь.
***По́куць*** — ганаровае месца ў хаце за сталом пад абразамі.
***Шчо́дры ве́чар*** — народны абрад, вечар з 13 на 14 студзеня, калі калядоўшчыкі другі раз абходзілі двары з «казой» і віншавалі са старым Новым годам.

## КАЛЯДНЫЯ ПЕСНІ

### Добры вечар таму, хто ў гэтым даму...

Добры вечар таму, хто ў гэтым даму,
Добры вечар добрым людзям!
А ў гэтым даму сам пан гаспадар,
Шчодры вечар добрым людзям!
Сам пан гаспадар дай на покуце,
Шчодры вечар добрым людзям!
Ой, каля яго дай жана яго,
Шчодры вечар добрым людзям!
Ой, каля яе дзетачкі яе,
Шчодры вечар добрым людзям!



1. Калі, на вашу думку, калядоўшчыкі выконваюць гэтую песню?
2. Якія словы паўтараюцца ў песні? Якое прызначэнне гэтых паўтораў?

## Го-го-го, каза...

Го-го-го, каза, го-го-го, шэра!
Дзе каза ходзіць, там жыта родзіць!
Го-го-го, каза, го-го-го, шэра!
Дзе каза рогам, там жыта стогам!
Го-го-го, каза, го-го-го, шэра!
Дзе каза хвастом, там жыта кустом!
Го-го-го, каза, го-го-го, шэра!
Дзе каза нагой, там жыта капой!
Го-го-го, каза, го-го-го, шэра!
Дзе каза бывае, там шчасце вітае!
Го-го-го, каза, го-го-го, шэра!
Ты расхадзіся, развесяліся!
Го-го-го, каза, го-го-го, шэра!
Па ўсяму даму гаспадарскаму!
Го-го-го, каза, го-го-го, шэра!..



1. Калі калядоўшчыкі выконвалі гэтую песню?
2. Для чаго яны вадзілі казу?
3. Што калядоўшчыкі жадалі гаспадарам? Прачытайце.
4. Як людзі дзякуюць гасцям?
5. З якім настроем трэба спяваць калядныя песні?

### ПРЫКАЗКІ

- Прыйшлі Калядкі — бліны ды аладкі.
- Насталі Калядкі — гаспадарам парадкі.

## Праверце свае веды і ўменні

*Ведаю...*

1. Чым, на вашу думку, аб'яднаны змешчаныя ў гэтым раздзеле вершы і апавяданні?

2. У якіх творах гаворыцца пра мароз? Пра зімовыя забавы дзяцей? Пра навагоднія святы?

3. Які настрой выклікаюць вершы «Снежны дзед» Ніла Гілевіча і «Белыя ключы» Міколы Маляўкі?

4. Хто аўтар наступных радкоў?

«...Цяплом дыхне вясна,
Вярнуўшыся здалёк,
Ключы пад тым сумётам
Знойдзе ручаёк».

5. У якіх творах даецца такое апісанне зімовага пейзажу?

а) «Амярцвелі лозы,
Чуць галлём хістаюць,
А ў палях марозы
Ды вятры гуляюць»;

б) «Пазамыкаў мароз,
Румяны і бадзёры,
Крыніцы ўсе жывыя,
Рэкі і азёры».

6. Пра каго ці пра што ідзе гаворка ў наступных радках?

а) «Будзе ён тут па начах
Наганяць на зайцаў страх,

Каб не бегалі сюды
Сад псаваць наш малады!»;

б) «Як дбайны вартаўнік,
Замкі праверыў потым —
І сам ключы схаваў
Пад снегавым сумётам»;

в) «Уся яна была ў белай квецені, быццам у маі, калі ўсё цвіце. Маленькія свечачкі, якія доктар запаліў на (ёй), асвяцілі (яе) зіхатлівым жоўтым святлом. Мы і пах (яе) адчулі — тонкі, ледзь улоўны»;

г) «...прынеслі забавы,
і жарты, і песні,
загадкі, і гульні,
і танцы прынеслі».

***Разумею, магу растлумачыць...***

Якімі думкамі хацелі падзяліцца са сваімі чытачамі Васіль Жуковіч у вершы «Цудоўныя святы» і Васіль Хомчанка ў апавяданні «Елка з белымі кветкамі»?

***Умею...***

1. Чытаць на памяць верш Якуба Коласа «Зіма» («Надышлі марозы»).

2. Перадаць адпаведны настрой і інтанацыю пры чытанні вершаў «Снежны дзед» Ніла Гілевіча, «Белыя ключы» Міколы Маляўкі і «Цудоўныя святы» Васіля Жуковіча.

3. Па серыі малюнкаў складзі невялікую казку.













*Апорныя словы:* выпаў снег, лепяць снегавіка, хутка прыйдзе Новы год, рыхтавацца да свята, стала сумна, раніцай упрыгожылі ёлку, сталі весяліцца разам, вадзілі карагод, спявалі песні.

# ЯК ТЫ ДА ЛЮДЗЕЙ, ТАК І ЛЮДЗІ ДА ЦЯБЕ



**Мы працягнем чытаць** цікавыя і павучальныя творы пра ўзаемаадносіны людзей і іх учынкі, пра значэнне ветлівасці і добразычлівасці ў жыцці.

**Мы будзем вучыцца:**

- вызначаць рысы характару персанажаў;
- вызначаць тэму, фармуляваць галоўную асноўную думку твораў.

**Мы навучымся:**

- вылучаць сэнсавыя часткі апавядальнага твора, вызначаць галоўнае ў кожнай частцы;
- падрабязна пераказваць змест казак і апавяданняў з гэтага раздзела;
- знаходзіць у іх апісанне дзейнай асобы.

# Вельмі «ветлівы» Мікіта

*Эдзі Агняцвет*

У спякоту або ў студзень
Між палёў і гарадоў
Людзі ўсе ідуць як людзі:
— Добры дзень!
— Салют!
— Здароў!

Усміхнецца той другому —
І абодвум весялей.
Толькі ён выходзіць з дому,
Як гусак ці Бармалей.

І надзьмуты, і сярдзіты
Вельмі «ветлівы» Мікіта!
Ён паклаў свой «добры дзень»
У партфель або ў кішэнь?

І каго ён пераймае?..
У дрымучых джунглях слон
Галавой слану ківае —
Аддае і слон паклон.





А як звонка ў пушчы нашай!
Берасцянка: — Цінь-цінь-цень!
— Добры дзень! — шчыгол адкажа.
Праўда, пень маўчыць як пень.

І надзьмуты, і сярдзіты
Вельмі «ветлівы» Мікіта!
Ён паклаў свой «добры дзень»
У партфель або ў кішэнь?





1. Як аўтар ставіцца да свайго персанажа?
2. Каго Эдзі Агняцвет прыводзіць у прыклад хлопчыку? Падмацуйце адказ радкамі з твора.
3. Як вы разумееце сэнс слоў:

   «Ён паклаў свой “добры дзень”
   У партфель або ў кішэнь»?

4. Што вы параілі б Мікіту пры сустрэчы?
5. На якую тэму напісаны верш?
6. Якая асноўная думка гэтага твора?



Прачытайце прыказкі. Як вы разумееце іх сэнс?

## ПРЫКАЗКІ

- Добрая слава ў кошыку ляжыць, а благая — па дарожцы бяжыць.
- Чаго сабе не хочаш, таго і другому не жадай.
- Сам не ўмееш слухаць — другога не прымусіш.



Прачытайце скорагаворкі. Правільна вымаўляйце гукі [р], [ч].

### СКОРАГАВОРКІ

- У **ч**аплі **ч**апляня, у зайкі зай**ч**аня.
- Т**р**ы д**р**ывасекі на т**р**ох два**р**ах д**р**овы сякуць.



***Ула́шчаныя*** (жабкі) — задобраныя.
***Заве́сці сваю́ валы́нку з катры́нкай*** — пачаць дакучлівую размову, гаварыць адно і тое ж.

## Жабкі і Чарапаха

(Скарочана)

*Уладзімір Караткевіч*

На беразе маленькага ляснога возера-балотца разгарла́ліся, разышліся і наладзілі канцэрт жабы. Церушыў на іхнія галоўкі цёплы дожджык, свяціла праз яго сонца. Весела было жабкам — вось яны і спявалі.

І тут прыплыла з такога самага суседняга балотца-возера вялікая балотная Чарапаха. Жыла яна адна, пачула вясёлыя спевы і вось прыплыла, вынырнула, напалову вылезла на бераг і ўся аж зморшчылася ад асалоды. Надта добра спявалі жабкі.

— Жабкі-жабкі, дзень добры.

— А ты што за цуда-юда? — спыталі жабкі.

— Я Чарапаха.

— Бачыць такое не бачылі, чуць гэткае не чулі. Значыць, не можа цябе быць.

— Ды ёсць жа я, — сумна сказала Чарапаха. — І як жа вы добра спяваеце! Паўтарыце, калі ласка. Проста салаўі.

— Можам, — сказалі ўлашчаныя жабкі.

— Ку-ма, ку-ма
Бор-ршчык вар-рыла.

— Выдатна, — сказала Чарапаха. — Выключна.

— Бур-ракі, бур-рак-кі,
Бур-ракі-кі-кі-кі-кі.

У Чарапахі — аж слёзы з вачэй, так хораша спявалі жабы.

— Жабкі-жабкі, прыміце мяне ў свой хор.

— А ты спяваць умееш?

— Не. Я слухаць люблю.

— Дык слухай. Здалёк. Ці прывядзі сястру, якая ўмее.

— І яна не ўмее, — сумна сказала Чарапаха. — Мы, чарапахі, не ўмеем спяваць. Голасу нам не дадзена.

— Дык нашто ты нам тады? — спыталі жабкі.

— А слухаць вас хто будзе? Хваліць?

— Нас і так усе чуюць. І ўсе хваляць.

— Ну і я ціхенька сядзела б ды хваліла, — сказала добрая і разумная Чарапаха.

— Дык ты, можа, яшчэ нешта ўмееш? — спытала Галоўная Жаба ў хоры, якая аж дзьмулася ад важнасці.

— Плаваць умею. Ныраць.

— Гэта й мы ўмеем. А скакаць умееш?

— Не, — уздыхнула Чарапаха.

— Нічога ты не ўмееш... А мы яшчэ нясём ікру. Жабуры́нне.

— Я замест яе яйкі нясу, — сказала Чарапаха. — Вялікія.

— Ф-фу, — сказала Галоўная, — яйкі... Ну, паспрабуй усё ж заспяваць.



І Чарапаха зарыпела:

— Свеціць месячык з гары
На глыбокія віры.
На шчытах у чарапах
Сіняе святло гарыць.

— Словы нішто сабе, — сказалі жабы, — але ж голас? Бр-р-р!

— Дык я б вам — словы, а вы б спявалі.

— Словы ў нас не горшыя. Самі прыдумалі:

— Што вар-рыла, кум-ма, кум-ма?
Боршч, бор-ршч, бур-ракі.

— Добрыя словы, — сказала Чарапаха, — але галасы ў вас лепшыя.

— І што гэта за «шчыты ў чарапах»? — спытала Галоўная Жаба.

— А вось тое, што на мне.

— Гэта карычневае? — усхваляваліся жабы. — Гэта брыдкае? Ну не. Мы вось такія прыгожыя. Зялёныя. Бліскучыя. Як лакіраваныя...

Самая смелая з жабак падплыла асцярожна і дакранулася да панцыра лапкай...

— Жаба ў та́нку, — пажартавала насмешніца.

Пакрыўдзілася бедная Чарапаха, нырнула і паплыла ў пратоку, а пасля ў сваю азярынку. А жабы, гледзячы на яе бурбалкі, зноў завялі сваю валынку з катрынкай...

...Ну і што? І ці добра гэта атрымалася? Тут сабе жабкі весела співаюць дурныя словы добрымі галасамі. А там Чарапаха, што не мае голасу, але ведае добрыя словы, ляжыць сабе пад вадой, пад святлом месяца, пакрыўджаная і аднаадзінюсенькая.

І нашто, калі ты зялёны і мяккі, лаяць таго, хто карычневы і цвёрды? Ты вось ходзіш на дзвюх нагах, а кот — на чатырох. І няхай сабе.

Дрэнна вы зрабілі, жабы. Ану, марш адразу ж у Чарапахі прабачэння прасіць, перапрашаць яе!..



Ці пасябруюць жабы і Чарапаха? Прыдумайце сваю канцоўку казкі.



1. Чаму Чарапаха прыплыла да жаб?
2. Ці спадабаліся вам адносіны жабак да яе? Чаму? Як гэта іх характарызуе?
3. Чаму Чарапаха пакрыўдзілася і вярнулася назад у сваё балотца-возера? Ці правільна яна зрабіла?
4. Як Уладзімір Караткевіч ацаніў учынкі герояў гэтай казкі? Знайдзіце і зачытайце адпаведныя словы. Ці згодны вы з думкай аўтара? Чаму?
5. У якіх радках пісьменнік выказаў асноўную думку сваёй казкі? Прачытайце.
6. На якую тэму гэты твор?



1. Перакажыце змест казкі па пытаннях.

1) Дзе жылі жабы? Чаму ім было весела?
2) Хто прыплыў паслухаць іх спеў? З-за чаго госця пакінула сваё балота?
3) Аб чым папрасіла Чарапаха ў спявачак?
4) Як жабы адказалі на просьбу госці?
5) Якімі здольнасцямі і карыснымі справамі валодалі жабы і Чарапаха?
6) Чаму Чарапаха пакрыўдзілася на жаб і адправілася назад у сваё возера?
7) Якія думкі выказаў аўтар наконт паводзін герояў твора?
8) Якімі словамі пісьменнік заканчвае свой твор?



2. Размяркуйце казку па ролях. Выразна прачытайце яе.

### ЗАГАДКІ

Па пяску ледзь-ледзь паўзе,
А не зловіш у вадзе.
Ні рыбіна, ні птаха,
А проста … .







Пасля дожджыку ў чацвер
З лужы вылез страшны звер:
— Ква, ква, ква! — усіх спужаў бы,
Калі б мы не зналі … .



***Алавя́нае*** (сэрца) — нібы з металу.
***Во́лава*** — мяккі серабрыста-белы метал.
***Дау́ме́цца*** *(разм.)* — зразумець, дадумацца.
***Пага́рдлівы*** — ганарысты.
***Папраставá́ць*** — пайсці напрасткі, прама.

## Залатое сэрца

*Ніна Мацяш*

Жыў на свеце адзін чалавек. Нічым знешне не вылучаўся сярод іншых людзей, але ўсе ведалі, што ў яго грудзях — алавянае сэрца. На кожнага, хто страчаўся з ім і пачынаў размову, нібы навальваўся нейкі цяжа́р, а з твару надоўга знікала ўсмешка. Людзі сталі пазбягаць чалавека з алавяным сэрцам, і неўзабаве ён апынуўся ў поўнай адзіноце.

А жыў у той мясціне яшчэ адзін чалавек. І хоць таксама нічым не вылучаўся сярод людзей, але ўсе ведалі, што ён валодае дзівосным скарбам — сэрцам з чыстага золата. Людзі вельмі шанавалі гэтага чалавека, побач з ім жылося лёгка і светла. Чалавек з залатым сэрцам заўсёды быў гатовы прыйсці на дапамогу кожнаму, хто трапляў у бяду. Таму ён заўсёды быў акружаны людзьмі.

Чалавек з алавяным сэрцам вельмі зайздросціў чалавеку з залатым сэрцам. Зайздроснік



нават спаць не мог спакойна, усё думаў, што б зрабіць яму ліхое. І нарэшце вырашыў забраць у яго слых, каб той ніколі больш не пачуў людской удзячнасці.

Як задумаў злы вядзьма́к, так і зрабіў: аглух чалавек Залатое Сэрца. Цяжкія пакуты агарнулі яго: людзі хадзілі, варушылі вуснамі, смяяліся, але ў такой глыбознай цішы, што ажно рабілася страшна і звінела ў галаве. Цяжка было бедаку́ яшчэ і таму, што часта ён ніяк не мог даўмецца, чаго людзі хочуць ад яго. Ён стаў пазбягаць людзей, а неўзабаве і зусім замкнуўся ў сваёй хаце.

А была ў Алавянага Сэрца дачка Сябелю́бка. Калі яна нарадзілася, вядзьмак падарыў ёй чароўную палачку з бліскучым чорным наканечнікам. Дакранешся той палачкай да сэрца чалавека, і яно адразу ператвараецца ў халодную грудку волава.

І вось аднойчы, калі Залатому Сэрцу было асабліва цяжка на душы, перад ім з’явілася прыгажуня ў цудоўным убранні.

— Вазьмі мяне да сябе, добры чалавек! — папрасіла яна. — Няма ў мяне ні маткі, ні бацькі, на цэлым свеце няма да каго прыгарнуцца. Дай мне прытулак, вазьмі мяне ў дочкі, калі-небудзь я шчодра аддзячу табе за гэта.

Залатое Сэрца быў зачараваны прыгажосцю дзяўчыны. Ён не пачуў ніводнага слова, але зразумеў, што яна нешта просіць, таму пільна ўзіраўся ў яе твар, у вочы, каб здагадацца, што ёй трэба. І чым дапытлівей узіраўся, тым яскравей бачыў, якія раўнадушныя, злыя вочы ў неспадзяванай госці, якія пага́рдлівыя рухі яе рук. Ён зразумеў, што яна нядобрая, і прагнаў дзяўчыну са свайго двара. Ён і не падумаў, што гэта вядзьмак Алавянае Сэрца падаслаў да яго сваю Сябелюбку. Сам жа Залатое Сэрца вырашыў ісці да людзей.



Пафантазіруйце, як людзі аднясуцца да Залатога сэрца. Як закончыцца казка?

Калі прымуць — зноў да яго вернецца шчасце. А не прымуць — дык на людзях і паміраць лягчэй: жыць без іх ён усё адно не мог.

І толькі выйшаў у поле, як бачыць: б'ецца ў сіле́ жаўручок, вырвацца не можа. Залатое Сэрца разблытаў сіло, птушаня ўзвілося пад самае неба і залілося радаснай песняй у гонар свайго збавіцеля. Але ён не пачуў той песні і пакрочыў



далей. Ідзе-ідзе, раптам бачыць: сядзіць у елачцы зайка і лапкамі слёзы выцірае. Хацеў зайка елачку пераскочыць, ды засеў у голлі, вылезці не можа. Вызваліў Залатое Сэрца зайчыка, той шчасліва піскнуў «дзякуй» і памчаў дадому.

А Залатое Сэрца пайшоў далей. Бачыць: на дарозе, каля перакуленага воза з сенам, мітусіцца дзядзька, а зрабіць нічога не можа — не хапае сілы адвярнуць воз. Залатое Сэрца моўчкі падышоў да селяніна і дапамог яму падняць калёсы. А калі глянуў яму ў вочы, то ўбачыў у іх столькі ўдзячнасці, што азмрочанасць яго як рукой зняло. З лёгкай душой папраставаў ён далей. І ад кожнага добрага ўчынку сэрца яго зіхацела яшчэ ярчэй. Усе, каму патрэбна была дапамога,

ішлі на гэты чароўны бляск. І да Залатога Сэрца вярнуўся слых.

Калі ж вядзьмак Алавянае Сэрца даведаўся пра гэта, то лопнуў ад зайздрасці і злосці. А яго дачка Сябелюбка ўцякла за трыдзевяць зямель у трыдзясятае царства. Але яна не згубіла сваю чароўную палачку з бліскучым чорным наканечнікам, бо ніколі не выпускала яе з рук. Асцерагайцеся, каб вядзьмарка часам не дакранулася да вас, каб не ператварыліся вашы сэрцы ў гру́дкі халоднага волава!



1. Як адчувалі сябе людзі пры сустрэчы з Алавяным Сэрцам? Падмацуйце свае думкі словамі з твора.
2. Як адносіліся людзі да Залатога Сэрца? Чаму? Прачытайце адпаведныя радкі з казкі.
3. Якое зло захацелі ўчыніць Алавянае Сэрца і яго дачка? Як характарызуе іх гэты ўчынак?
4. Чаму Залатое Сэрца прагнаў са свайго двара Сябелюбку?
5. Якія добрыя справы зрабіў Залатое Сэрца, калі ішоў да людзей? Раскажыце пра іх згодна з планам.

План

а) Залатое Сэрца бачыць: б’ецца ў сіле́ жаўручок.
б) Сядзіць у елачцы зайка і лапкамі слёзы выцірае.
в) Каля перакуленага воза з сенам мітусіцца дзядзька.
г) Усе ішлі на чароўны бляск.

6. Аб чым папярэджвае нас аўтар твора? Прачытайце.



***Жыру́юць*** — кормяцца, нагульваюць тлушч.

## Сёння ў Толі выхадны

*Паўлюк Прануза*



Сёння ў Толі выхадны,
Дома не сядзіцца.
Вынес раніцай зярнят
Снегірам, сініцам.

На кустах і пад акном
Новыя кармушкі,
Да вячэрняе зары
Тут жыруюць птушкі.

Ноччу снегу намяло,
Гу́рбы на дарозе.
Вось на вуліцы гудзе
Працаўнік-бульдозер.

На марозе ж не стаяць!
Толя ўзяў лапату.
Снег рыпучы разграбаў
Радасна, заўзята.

Разагрэўся, успацеў,
Рукавіцы скінуў.
Ад пад'езда цераз двор
Пралягла сцяжына.

Хто ні крочыў, гаварыў:
— Малайчына, Толя...
Снег сцяжынку не замёў,
Церусіў паволі.



1. Якія добрыя справы зрабіў Толя ў свой выхадны дзень? Прачытайце.
2. Ці лёгка было хлопчыку разграбаць снег? Падмацуйце сваю думку радкамі з верша.
3. За што хвалілі людзі галоўнага героя?
4. Ці можна сказаць, што ў Толі залатое сэрца? Пра якіх людзей так звычайна гавораць?
5. Які сэнс уклаў аўтар у радкі:

   «Снег сцяжынку не замёў,
   Церусіў паволі»?

6. Вызначце тэму і асноўную думку твора.
7. Якія прыказкі падыходзяць да сэнсу гэтага твора?

### ПРЫКАЗКІ

- У добрага чалавека заўсёды многа добрых сяброў.
- Хто толькі сам сябе любіць, таго ніхто не любіць.
- Якія самі, такія нашы сані.
- Садок пасадзіў — добрую справу зрабіў.
- Пажыві для людзей, пажывуць і для цябе.



Завучыце лічылку. З яе дапамогай пералічыце сваіх аднакласнікаў. Вымаўляйце правільна гукі [дз’], [ч], [г], [р], [ц’].

### ЛІЧЫЛКА

**Р**аз, два, т**р**ы —
Бяжым з **г**а**р**ы.
**Ч**аты**р**ы, пя**ць** —
Сп**р**абуй даг**н**а**ць**.

Шэ**сць**, сем, восем —
Бег**ч**ы п**р**осім.
**Дз**евя**ць**, **дз**еся**ць** —
Хто нас ст**р**э**ц**і**ць**.
*Ніна Галіноўская.*



***Навы́перадкі*** — стараючыся перагнаць адзін аднаго.
***Арэ́лі*** — гушкалка; *рус.*: качели.
***Руды́*** — рыжа-карычневы.

## Добрая фея

*Лідзія Арабей*

Свяціла сонейка, зелянела трава, клёнікі толькі што павыкідалі свае клейкія лісточкі. І весела забаўляліся ў двары хлопчыкі. Яны бегалі навыперадкі, гулялі ў хованкі, гушкаліся на арэлях. З імі бегаў, залівіста гаўкаў руды віславухі сабачка, ён не баяўся, што яго пакрыўдзяць альбо прагоняць, бо ведаў — ён з гэтай самай кампаніі і дзеці яго любяць.

А яшчэ адзін хлопчык сядзеў у крэсле каля пад'езда і сумна пазіраў на дзяцей. Ён зайздросціў не толькі гэтым хлопчыкам, але і рудому сабачку, які так спрытна скакаў на сваіх кароценькіх лапках. Гэтаму хлопчыку таксама хацелася пабегаць, пагуляць са сваімі равеснікамі, але ён не мог бегаць, ён не мог нават хадзіць, бо ў яго былі хворыя ногі.

Маці раніцой выносіла на двор крэсла, потым выносіла на руках сына, і ён падоўгу сядзеў, пазіраючы на белыя воблакі, што плылі ў блакітным небе, глядзеў, як калыхаў вецер кляновыя лісточкі. А найбольш паглядаў на дзяцей, слухаў іх звонкія галасы.

Ён быў бы вельмі ўдзячны, калі б хто-небудзь падышоў да яго, пагаварыў з ім. Не могучы бегаць, гуляць у двары, хлопчык шмат чытаў і ведаў многа казак, розных цікавых гісторый; ён мог бы расказаць іх дзецям. Але тыя не падыходзілі да яго, рабілі выгляд, быццам яго наогул няма ў двары, каля пад'езда. І вочы ў хлопчыка былі заўсёды сумныя, а твар не ведаў усмешкі.

Аднойчы ў двары з'явілася дзяўчынка. У яе былі светлыя кучаравыя, як у анёла на паштоўцы, валасы, вялікія сінія вочы і тонкая шыйка. Хлопчыкі заўважылі яе, і яна ім спадабалася.

— Ідзі да нас гуляць! — паклікаў адзін.

— Мы прымаем і дзяўчынак, — сказаў другі.

Але дзяўчынка не пайшла да іх. Яна спынілася каля хлопчыка, які моўчкі сядзеў у крэсле.

— Як цябе зваць? — спытала яна.

— Віця, — адказаў хлопчык.

— А мяне — Валя. Скажы, чаму ты не гуляеш з дзецьмі?

— У мяне ногі хворыя, я не ўмею хадзіць.

— А з кім ты сябруеш? — спытала дзяўчынка.

— Я ні з кім не сябрую, — апусціў вочы хлопчык. — Са мною ніхто не хоча сябраваць.

— Я буду з табою сябраваць.

— Праўда? — узрадаваўся Віця і радасна ўсміхнуўся.

Дзяўчынка таксама ўсміхнулася свайму новаму сябру і раптам сказала:

— Я думаю, не такія ўжо хворыя твае ногі, і калі ты вельмі захочаш, то зможаш пачаць хадзіць.

— Не, — уздыхнуў Віця. — Я спрабаваў... Не ўмею...

— А я табе дапамагу, — сказала Валя. — Дай руку!

Віця падаў руку дзяўчынцы, і здарыўся цуд. Хлопчык стаў на ногі! Ён стаяў не вельмі цвёрда, але стаяў!



— Вось бачыш, — сказала Валя, — ты ўжо ўмееш стаяць. А цяпер ідзі са мною... Ідзі!.. Не бойся!..

Хлопчык зрабіў адзін крок, другі.



Як будуць развівацца падзеі ў творы далей?

Дзеці, якія гулялі ў двары, сабраліся каля пад'езда і глядзелі на ўсё гэта, як на дзіва. Нават руды сабачка прыбег з імі і таксама, быццам нешта разумеючы, з цікавасцю глядзеў на Віцю.

Адзін хлопчык кінуўся ў пад'езд, да Віцевай мамы.

— Цёця, цёця, — закрычаў ён. — Ваш Віцька ходзіць!

Віцева мама выбегла на двор і, не верачы сваім вачам, глядзела на сына, які, трымаючыся за Валіну руку, рабіў першыя нясмелыя крокі.

— Ты чараўніца? — пыталіся ў Валі хлопчыкі. — Ты добрая фея?

— Не, — адказала Валя. — Я звычайная дзяўчынка.

Хлопчыкі не ведалі, што добрае слова, шчырае слова сапраўды можа зрабіць цуд.



1. У якую пару года адбываюцца падзеі, апісаныя ў гэтым творы? Знайдзіце і зачытайце апісанне адпаведнай карціны прыроды. Які настрой выклікала яно ў вас? Патлумачце.
2. Чаму «адзін хлопчык сядзеў у крэсле каля пад’езда і сумна пазіраў на дзяцей»?
3. Якая запаветная мара была ў Віці? Прачытайце адпаведны ўрывак з тэксту.
4. Знайдзіце і прачытайце апісанне знешнасці Валі. Якія ўражанні яно выклікала ў вас?
5. Прачытайце размову Валі і Віці па ролях. Падумайце, якія рысы характару выяўляюцца ў гэтай дзяўчынкі?
6. Якая з прапанаваных прыказак найбольш падыходзіць, каб выказаць галоўную думку апавядання?

### ПРЫКАЗКІ

- Добрае слова да сэрца даходзіць.
- Слоўка, як птушка: выпусціў — не вернеш.
- Рана загоіцца, а злое слова — ніколі.



***Му́сіць*** — магчыма.
***Шкада́*** — пра нежаданне аддаць, страціць.
***Няёмка*** — непрыемна, цяжка.

## А таму!

*Мікола Янчанка*

Змітрок, Валодзя і Маня ў лес ідуць. У грыбы, му́сіць. Ромка таксама ўхапіў кошык ды на вуліцу:

— І мяне вазьміце!

— Хадзем, — кажа старэйшы, Змітрок. — Што нам — лесу шкада, ці што? Толькі не адставай ад нас. Каб не згубіўся часам.

— Добра, — паабяцаў Ромка, — не адстану.

Да лесу рукой падаць. Збеглі ў лагчынку, перайшлі па кладцы рэчку — у алешнік. А за алешнікам на ўзгорачку сасоннік, у якім дзе-нідзе бярозкі трапляюцца. Унізе ж малады ельнік. Самы баравіковы лес!

Усе прама пайшлі. А Ромка бачком, бачком ды налева. Рашыў прабегчы па тых мясцінах, дзе яны з бацькам раней былі. Вось і знаёмая канаўка паўз дарогі. Ромка адразу крок прыцішыў, прыгнуўся крыху́, пачаў уважліва заглядваць пад елачкі ды разграбаць прыўзнятыя лісточкі. І аж уздрыгнуў ад нечаканасці: з-пад

лапак выглядаў карана́сты прыгажун баравік. Ромка палюбаваўся ім, не спяшаючыся, зрэзаў і паклаў у кошык. Ступіў некалькі крокаў — яшчэ адзін, азірнуўся вакол — трэці, чацвёрты!

А дзесьці ў глыбіні лесу крычалі Змітрок, Валодзя і Маня. Яго клікалі. Але Ромка не адгукнуўся. «Яшчэ сюды прыбягуць і мае баравікі пахапаюць», — думаў ён.

Галасы Змітрака, Валодзі і Мані сталі ледзь чу́тныя. Ромка спалохаўся і пабег да сяброў.

— Дзе гэта ты быў? — незадаволена сустрэў яго Змітрок. — Мы ўсе ногі пазбівалі, цябе шукаючы.

— Заблудзіўся я, — зманіў Ромка і апусціў долу вочы. — Адышоўся ад вас і заблудзіўся.

Падбеглі Валодзя і Маня.

— А мы цябе шукалі, шукалі, — пачала сыпаць Маня. — Думалі ўжо ў вёску бегчы ды старэйшых клікаць...

— Дадому час, — спыніў яе Змітрок і звярнуў на дарогу.

Ромку было няёмка перад сябрамі. Ён ішоў за імі, апусціўшы галаву. Але настрой яго адразу ўзняўся, калі яны ўвайшлі ў вёску.



— Глядзі ты, — дзівіліся сустрэчныя, — такі малы, а поўны кошык баравічкоў накалупаў. А ты, Змітрок, пэўна, варон лічыў. Толькі дно закрыў.

Хацеў Змітрок сказаць, што не да баравікоў яму было, што вось гэтага Ромку шукаў, ды змаўчаў.

Назаўтра Ромка сам да Змітрака пайшоў. Там Валодзю і Маню застаў. З кошыкамі.

— І я з вамі! — гукнуў Ромка.

— Не, — панура адказаў Змітрок, — мы цябе з сабой не возьмем.

— А чаму?

— А таму! — адказаў за Змітрака Валодзя.



1. Ці спадабаліся вам паводзіны Ромкі ў лесе? Патлумачце.
2. Чаму дзеці не захацелі браць яго з сабой у другі раз? Ці правільна яны зрабілі?
3. Як бы вы растлумачылі Ромку апошнія словы Валодзі?
4. Што хацеў сказаць аўтар чытачам гэтай гісторыяй?
5. Якая з прапанаваных прыказак найбольш падыходзіць да асноўнай думкі апавядання?

### ПРЫКАЗКІ

- Умееў памыліцца, умей і паправіцца.
- Як ты да людзей, так і людзі да цябе.

 Перакажыце змест твора па пытаннях.

1. Куды збіраліся ісці Змітрок, Валодзя і Маня?
2. Хто папрасіўся ісці разам з імі?
3. Як паводзіў сябе Ромка ў лесе?
4. Чаму толькі ён адзін набраў цэлы кошык баравікоў?
5. З-за чаго дзеці не ўзялі другі раз Ромку з сабой у лес?

## Праверце свае веды і ўменні

*Ведаю...*

1. Хто з'яўляецца аўтарамі казак «Жабкі і Чарапаха» і «Залатое сэрца»?
2. У якіх творах пісьменнікі павучаюць чытача словамі:

   а) «Асцерагайцеся, каб вядзьмарка часам не дакранулася да вас, каб не ператварыліся вашы сэрцы ў гру́дкі халоднага волава!»;

   б) «І нашто, калі ты зялёны і мяккі, лаяць таго, хто карычневы і цвёрды? Ты вось ходзіш на дзвюх нагах, а кот — на чатырох. І няхай сабе»?

3. Які твор заканчваецца радкамі:

а) «Хлопчыкі не ведалі, што добрае слова, шчырае слова сапраўды можа зрабіць цуд»;

б) «— І я з вамі! — гукнуў Ромка.

— Не, — панура адказаў Змітрок, — мы цябе з сабой не возьмем.

— А чаму?

— А таму! — адказаў за Змітрака Валодзя»;

в) «Хто ні крочыў, гаварыў:

— Малайчына, Толя...

Снег сцяжынку не замёў,

Церусіў паволі»?

4. Чый гэта партрэт:

а) «Аднойчы ў двары з'явілася дзяўчынка. У яе былі светлыя, кучаравыя, як у анёла на паштоўцы, валасы, вялікія сінія вочы і тонкая шыйка»;

б) «Ён не пачуў ніводнага слова, але зразумеў, што яна нешта просіць, таму пільна ўзіраўся ў яе твар, у вочы, каб здагадацца, што ёй трэба. І чым дапытлівей узіраўся, тым яскравей бачыў, якія раўнадушныя, злыя вочы ў неспадзяванай госці, якія пагардлівыя рухі яе рук. Ён зразумеў, што яна нядобрая, і прагнаў дзяўчыну са свайго двара»?

5. Каму з герояў дадзена наступная характарыстыка:

а) «Нічым знешне не вылучаўся сярод іншых людзей, але ўсе ведалі, што ў яго грудзях — алавянае сэрца. На кожнага, хто страчаўся з ім і пачынаў размову, нібы навальваўся нейкі цяжар, а з твару надоўга знікала ўсмешка»;

б) «...ён валодае дзівосным скарбам — сэрцам з чыстага золата. Людзі вельмі шанавалі гэтага чалавека, побач з ім жылося лёгка і светла. Чалавек з залатым сэрцам заўсёды быў гатовы прыйсці на дапамогу кожнаму, хто трапляў у бяду. Таму ён заўсёды быў акружаны людзьмі»?

6. Да якіх твораў зроблены малюнкі? Назавіце аўтараў гэтых твораў.







### *Разумею, магу растлумачыць...*

1. З-за чаго Чарапаха з казкі Уладзіміра Караткевіча «Жабкі і Чарапаха» пакрыўдзілася на жаб і вярнулася назад у сваё балотца-возера? Ці правільна яна зрабіла?

2. Чаму дзеці з апавядання Міколы Янчанкі «А таму!» не захацелі браць з сабой Ромку ў лес другі раз?

3. Пра якіх людзей гавораць, што ў іх залатое сэрца?

4. За што хвалілі людзі галоўнага героя верша Паўлюка Пранузы «Сёння ў Толі выхадны»?

### *Умею...*

1. Вызначаць настрой вершаў «Вельмі “ветлівы” Мікіта» Эдзі Агняцвет і «Сёння ў Толі выхадны» Паўлюка Пранузы.

2. Скласці прыказкі і растлумачыць іх сэнс.

а) людзей, | то і | Шануй | пашануюць. | цябе

б) таго і | другому | не хочаш, | не жадай. | сабе | Чаго

в) другога | Сам | не прымусіш. | не ўмееш | слухаць —

# ЗМЕСТ

Вучэбнае выданне

**Жуковіч** Мікалай Васільевіч

**ЛІТАРАТУРНАЕ ЧЫТАННЕ**

Вучэбны дапаможнік для 3 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай і рускай мовамі навучання

У дзвюх частках

Частка 1

Нач. рэдакцыйна-выдавецкага аддзела *Г. І. Бандарэнка*
Рэдактар *Л. Ф. Леўкіна*
Мастакі *В. В. Дударэнка, Т. В. Кубліцкая, М. М. Рудакоўская, П. М. Патоцкая*
Мастацкі рэдактар *Л. М. Рудакоўская*
Карэктары *К. В. Шобік, Д. Р. Лосік, Л. Г. Ганчарэнка*

Падпісана ў друк 29.06.2017. Фармат $70\times90^1/_{16}$. Папера афсетная.
Друк афсетны. Ум. друк. арк. 9,95. Ул.-выд. арк. 4,0 + 0,47 форз.
Тыраж 140 300 экз. Заказ

Навукова-метадычная ўстанова «Нацыянальны інстытут адукацыі» Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 1/263 ад 02.04.2014.
Вул. Караля, 16, 220004, г. Мінск

ААТ «Паліграфкамбінат імя Я. Коласа». Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 2/3 ад 04.10.2013.
Вул. Каржанеўскага, 20, 220024, г. Мінск

(Назва і нумар установы агульнай сярэдняй адукацыі)

| Навучальны год | Імя і прозвішча вучня | Стан вучэбнага дапаможніка пры атрыманні | Адзнака вучню за карыстанне вучэбным дапаможнікам |
|---|---|---|---|
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |